ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 31 (2589)

6 жніўня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

«СЛАВЯНСКІ БАЗАР»





Закончыўся чарговы фестываль "Славянскі базар" у Віцебску. У яго рамках прайшлі Дні нацыянальных культур Украіны, Расіі і Беларусі, выступленні "зорак" эстрады, конкурсы маладых выканаўцаў. З вялікім поспехам прайшоў Дзень культуры Беларусі, які супаў са святам горада Віцебска.

"Гран-пры" сярод маладых выканаўцаў атрымаў спявак з Ізраіля Рафаэль, выканаўшы на беларускай мове і іўрыце песню І. Лучанка "Зачараваная". Другая прэмія — у самай маладой удзельніцы конкурсу, беларускай спявачкі Вікторыі Дземянчук з Гродна. Юная прадстаўніца з Беларусі ў першы дзень запомнілася песняй "Рэчанька". У дзяўчыны вялікі патэнцыял, вялікія магчымасці. Сваю прэмію яна збіраецца выкарыстаць, запісаўшы першы альбом. Праца над ім распачата.

НА ЗДЫМКАХ: аншлаг у летнім амфітэатры Віцебска; спявае лаўрэат рэспубліканскіх музычных фестываляў Ірына ДАРАФЕЕВА.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

ПАЛЕМІКА

## СУВЕРЭНІТЭТ – ГАРАНТЫЯ ЦЫВІЛІЗАВАНАГА РАЗВІЦЦЯ НАРОДА

Заканамерным жаданнем кожнага народа, не абдзеленага нацыянальнай самасвядомасцю, было і застаецца мець сваю незалежную, моцную ўласную дзяржаву. Многім даводзілася здабываць яе кроўю, працяглымі войнамі, часцей за ўсё з блізкімі суседзямі. Тыя ж народы, якія не імкнуліся да самастойнага палітычнага жыцця і не дасягнулі незалежнасці, асуджаліся на немінучае выміранне. Гісторыя вельмі багатая на такія прыклады.

Вяцічы, яцвягі, прусы...

А як жа з беларусамі абышлася гісторыя? Ці былі хоць калі-небудзь яны дзяржаўным народам? На апошняе з гэтых пытанняў з поўным правам дацьці цяпер сцвярджальны адказ. І шукаюць яго найперш у Вялікім Княстве Літоўскім.

Як самастойная, адзіная краіна існавала яно на працягу трох стагоддзяў. А гэта пераканаўчае сведчанне, што беларускі народ прайшоў даволі працяглы шлях незалежнага дзяржаўнага развіцця. Ён трывала помніўся, не забываўся і тады, калі нашыя прашчуры не ад добрага жыцця апынуліся з 1569 года ў складзе аб'яднанай на федэратыўных пачатках дзяржаве — Рэчы Паспалітай.

Дальнабачлівыя беларускія дзяржаўныя дзеячы, такія, як Леў Сапега, Храптовічы ды ўвогуле ўсе разумныя людзі скемілі, у якую небяспечную пастку, расстаўленую палітыкамі Польскай Кароны, трапілі яны. Але было позна. Шлях назад быў перакрыты. Выйсці з дзяржаўнага саюзу аказалася намнога больш складанай справай, чым, каб гэта давялося тады ці цяпер, скасаваць шлюб паміж мужам і жонкай. Вялікае Княства Літоўскае, знаходзячыся ў складзе Рэчы Паспалітай, усё больш і больш трацiла найважнейшыя атрыбуты сваёй дзяржаўнай незалежнасці. У сярэдзіне XVIII стагоддзя яна ўжо насіла чыста сімвалічны характар. Адданыя нацыянальна-дзяржаўнай ідэі беларусы з велізарнай настальгіяй прыгадвалі часы, калі іх краіна была вольнай, самастойнай.

З такой думкай не развіталіся яны і тады, калі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай амаль усе беларускія землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі і канчаткова страцілі сваю нават сімвалічную аўтаномію. Ідэя нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту не толькі з найбольшай моцай ажывала ў галовах перадавой часткі людзей, але і пачынала набываць пэўнае практычнае ўвасабленне, асабліва падчас якіх-небудзь вялікіх калізій у жыцці нашага краю, напрыклад, акупацыі Беларусі ў 1812 годзе французскімі войскамі. У Напалеона, як вядома, планы адраджэння Вялікага Княства Літоўскага знаходзілі пэўную падтрымку. Пазней шмат прыхільнікаў такіх планаў было і сярод тых, хто далучыў-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

## ЛЕТАПІСЕЦ СЯЛЯНСКАЙ АТЛАНТЫДЫ

Максім Гарэцкі прыйшоў у літаратуру, сцвердзіўся як празаік, драматург, літаратуразнавец, крытык і публіцыст у эпоху "Нашай нівы" (1906—1915) і Беларускай Народнай Рэспублікі (1918—1920). Гэта тады наша прыгожае пісьменства не толькі засвойвала айчынную фальклорную і, шырэй, этнакультурную традыцыю, але творча выкарыстала вопыт еўрапейскай постклaсічнай мадэрнісцкай літаратуры. У паэзіі такое гарманічнае спалучэнне разнайтых, нават кантрастных галасоў мастацкай культуры самабытна рэалізавалася ў творчасці Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, а ў прозе — найперш у творчасці М. Гарэцкага, крыху пазней — Кузьмы Чорнага.

Неяк арганічна, без намеру зрабіць пераварот у літаратурным мастацтве М. Гарэцкі паяднаў народную аўтэнтычную культуру — ад міфалогіі да развітых жанраў фальклору — з авангарднай эстэтыкай, з яе кампазіцыйнымі і фабульнымі навацыямі. Поруч з класічнай кампазіцыяй (умоўна назавем яе "геаметрычнай" альбо лінейна-храналагічнай, біяграфічнай), у сваіх апавяданнях і аповесцях ён карыстаўся посткласічнымі метадамі (умоўна назавем "мазаічнымі" альбо "квантавымі"). У адрозненне ад сучаснага, запоўненага ў нас мадэрнізму, які свядома арыентуецца на адлаведныя мастацка-эстэтычныя набыткі еўра-амерыканскай літаратуры, у М. Гарэцкага гэта творчая эвалюцыя адбылася на ўзроўні архетыпаў сусветнага мастацтва, самабытна выяўленых у беларускай этнічнай культуры. Янка Купала і Максім Багдановіч у паэзіі, Максім Гарэцкі ў прозе адкрылі гэтыя

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ЖЫЦЦЁ ПРАВІНЦЫ

## СМАЛЯВІЦКІЯ ШЛЯХІ



Смалявічам 490 гадоў. Нямала, згадзіцеся. І як звычайна бывае на доўгім шляху, гэтай зямлі давялося пабачыць усякае — і добрае, і дрэннае. Але зноўтакі, як звычайна, нягледзячы ні на якія перашкоды, жыццёвая плынь ніколі не спынялася, не спыняецца, і, без сумнення, не спыніцца. Прынамсі, пакуль будзе на зямлі такая краіна — Беларусь.

Літаральна кожны раён Беларусі мае сваё адметнае аблічча — прыроднае, гістарычнае, культурнае, эканамічнае. Што тычыцца Смалявіччыны, акрамя іншага, тут асобы адбітак кладзе блізкасць да цэнтра ўсёй краіны — сталічнага Мінска і наяўнасць на тэрыторыі раёна такога значнага аб'екта, як галоўны аэрапорт Беларусі — "Мінск-2". Дарэчы, нядаўна аэрапорт аб'яўлены свабоднай эканамічнай зонай, што выклікае ў мясцовых кіраў-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ГРАМАДСКІЯ АКЦЫІ

# МІТЫНГ І ШЭСЦЕ ПРАЙШЛІ БЕЗ ІНЦЫДЭНТАЎ

Як паведаміла "Звяздзе" кіраўнік прэс-службы УУС Мінгарвыканкома Наталля Лапо, супрацоўнікамі міліцыі не было зарэгістравана ніводнага правапарушэння падчас правядзення 27 ліпеня ў беларускай сталіцы санкцыяніраваных гарадскімі ўладамі шэсця і мітынгу. Яны былі прымеркаваны да Дня незалежнасці, які быў афіцыйна адменены ў 1996 годзе. Адпаведна сіламі правапарадку не быў затрыманы ніводзін удзельнік акцыі. Сапраўды, у панядзелак абодва бакі — як арганізатары і ўдзельнікі дэманстрацыі, так і супрацоўнікі органаў правапарадку — паводзілі сябе вельмі тактоўна і дружалюбна ў дачыненні адзін да аднаго.

Згодна з папярэдне абумоўленым планам, дэманстранты прайшлі па тратуарах і адной паласе праспекта Скарыны, што амаль не паўплывала на стабільную работу гарадскога транспарту і аўтамабільны рух па галоўнай артэрыі горада.

Не ўдалася нават правакацыя кучкі падлеткаў-"баркашоўцаў", якія, выкрыкваючы антыбеларускія і прафашысцкія лозунгі, паспрабавалі завязаць з дэманстрантамі бойку. Аднак на правакацыі ніхто не паддаўся: хуліганаў затрымалі і перадалі ў рукі міліцыі. Відаць, ніхто не жадаў псаваць святочны настрой.

Хаця, як паказаў мітынг, на самай справе настрой быў далёка не святочны. Акрамя прывітанняў і віншаванняў з нагоды чарговай гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце і, адпаведна, Дня незалежнасці, з вуснаў прамоўцаў гучалі адкрытыя абвінавачванні ў адрас дзеючых уладаў. Напрыклад, Генадзь Карпенка, які вёў мітынг, заявіў, што за восем гадоў, якія мінулі з таго часу, калі Вярхоўны Савет прыняў гістарычны дакумент, рэальнага суверэнітэту і незалежнасці беларуская дзяржава дасягнуць так і не змагла.

Выказванні іншых удзельнікаў былі яшчэ больш радыкальнымі, што характэрна для мерапрыемстваў, якія ладзіць апазіцыя. Сярод выступаючых былі В. Голубеў, А. Дабравольскі, Ю. Хадыка, С. Багданкевіч, С. Шарэцкі, А. Лябедзька, П. Знавец, М. Статкевіч.

Мітынг прыняў рэзалюцыю, паводле якой у Беларусі па-ранейшаму застаецца рызыка страціць нават тыя рысы суверэнітэту, якія існуюць зараз. Паводле аўтараў дакумента, асноўная пагроза зыходзіць ад таго, што на фоне пагаршэння адносінаў з заходнімі дзяржавамі наша краіна можа быць "інкарпаравана ў састаў Расійскай Федэрацыі".

Нельга не заўважыць таго факта, што 27 ліпеня чарговы раз апазіцыйныя партыі пераадолелі міжусобныя рознагалоссі і правялі агульную акцыю пад кіраўніцтвам аб'яднанага аргкамітэта. Таму над удзельнікамі шэсця луналі аднachасова сцягі і БНФ, і АГП, і БСДП "НГ" і Беларускай партыі працы. Мусіць, па гэтай прычыне арганізатарам удалося сабраць на мерапрыемства значную колькасць людзей. Прыкладна тры тысячы чалавек, нягледзячы на пару водпускаў, узялі ўдзел у акцыі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ**
**("Звязда").**

ВІЦЕБСКІ АНКАЛАГІЧНЫ



Адкрыўся новы корпус анкалагічнага дыспансера ў Віцебску. У яго будынку размясціліся анкалагічнае, хірургічнае, анкатаракальнае аддзяленні, рэанімацыі і інтэнсіўнай тэрапіі. Дыспансер аснашчаны сучаснай тэхнікай.

**НА ЗДЫМКУ:** ідзе аперацыя.

Фота **Аляксандра ХІТРОВА**, БелТА.

БЕЛАРУСЬ — ЭСТОНІЯ

# ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ

У Міністэрстве фінансаў Эстонскай Рэспублікі Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Таліне Іван Бондар і канцлер Міністэрства фінансаў Эстоніі Агу Лаане падпісалі Пратакол "Аб абмене граматамі аб ратыфікацыі Пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь і Эстонскай Рэспублікай аб тым, каб пазбегнуць двайнога падаткаабкладання і прадухіленні ўхілення ад уплаты падаткаў у адносінах падаткаў на даходы".

ЦЭНТРАЛЬНЫ РЫНАК БУДМАТЭРЫЯЛАЎ



Ва Уруччы адкрыўся спецыялізаваны рынак для гандлю таварамі і паслугамі будаўнічага прызначэння — Цэнтральны рынак будматэрыялаў. Ён займае каля васьмі гектараў, знаходзіцца паблізу Мінскай кальцавой дарогі і аўтастрады Брэст—Масква.

Акрамя будматэрыялаў, тут можна набыць бытавую тэхніку, ацяпляльнае і вентыляцыйнае абсталяванне, сантэхніку, мэблю, гаспадарчыя і электратэхнічныя тавары.

**НА ЗДЫМКАХ:** новы рынак будматэрыялаў прымае пакупнікоў.

Фота **Генадзя СЯМЁНАВА**, БелТА.

ЗДАРЭННІ

# НАПАД НА ПРАДСТАЎНІКА ПРАКУРАТУРЫ БЕЛАРУСІ

Удар тупым прадметам у твар нанёс невядомы паўнамоцнаму прадстаўніку Пракуратуры Беларусі пры Генпракуратуры Расіі Івану Шкелю. Па інфармацыі "Інтэрфакса", напад на 57-гадовага пракурора адбыўся вечарам у пад'ездзе аднаго з дамоў на вуліцы Яблачкава ў Маскве. Асоба злачынцы, як і матывы нападу, пакуль не ўстаноўлены. Пракуратура Беларусі з мэтай высвятлення ўсіх акалічнасцей здарэння накіравала ў Маскву афіцыйны запыт.

# ЗАГІНУЛІ БРАКАНЬЕРЫ

Два гора-рыбакі з раённага цэнтра Горкі ў час браканьерства на мясцовай рэчцы Проня паплаціліся ўласным жыццём. Узяўшы трохсотметровы провад, яны падключылі яго да высокавольтнай лініі. А другі агалены канец кінулі ў ваду. Калі аглушаная электратокам рыба пачала ўсплываць на паверхню, яны кінуліся ў ваду лавіць яе сакком. Але... абодва браканьеры загінулі ад моцнага разраду тока.

*"Сёння ў Еўропе няма аніводнай унітарнай дзяржавы, дзе б, акрамя карэннай нацыі, правам на статус дзяржаўнай карысталася б яшчэ і мова якой-небудзь нацменшасці. У такое разумнае моўнае рэчышча павінна была б уступіць у апошнім дзесяцігоддзі XX стагоддзя і Беларусь. Наданне ж рускай мове юрыдычна аднолькавых правоў з беларускай развязала рукі тым дзеячам і кіраўнікам, якія не валодалі і не жадалі авалодаць беларускай мовай, арганічна не прымалі ідэі беларускага нацыянальна-культурнага руху. На вялікае здзіўленне, сярод такіх асоб аказалася і шмат беларусаў. Няцяжка ўявіць, да якой ступені дэнацыяналізацыі трэба дайсці, каб родную мову лічыць нейкай непатрэбнай абузай! Такога нельга даравацъ нават простым людзям, хаця яны маглі і не разумець усіх тонкасцей і далёкіх прыцэлаў палітыкі русіфікацыі. Дзяржаўныя ж дзеячы і інтэлігенцыя не маюць права блукаць паміж дзвюма соснамі, не ведаць, што сапернiцтва паміж беларускай і рускай мовамі непазбежна прывядзе да перамогі апошняй, бо ў яе не толькі больш багаты вопыт абслугоўвання дзяржаўнага, грамадскага, культурна-асветніцкага, навуковага жыцця, але і значна большая колькасць фізічных носьбітаў. Перамагаць жа беларускую мову на яе этнічнай тэрыторыі не мае права аніякая мова, у тым ліку і руская, хаця для аўтара гэтых радкоў яна з'яўляецца роднай".*

**Ефрасіння АНДРЭЕВА,**
**доктар педагагічных навук, прафесар**

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

# ЧЭКАВЫЯ АЎКЦЫЁНЫ

Аўкцыён па продажу належачых дзяржаве акцый за чэкі "Маёмасць" прайшоў у Мінску. На ім былі выстаўлены звыш 1 мільёна 350 тысяч акцый 50 прадпрыемстваў розных галін прамысловасці, будаўніцтва, транспарту, што давала шанц пагасіць да 9 мільёнаў чэкаў. На продаж прапаноўвалася да 10 працэнтаў акцый шэрагу АТ.

Пабароцца за права іх пакупкі вырашылі 19 юрыдычных асоб, у тым ліку і спецыялізаваныя інвестфонды. Як адзначыў, вітаючы пакупнікоў, міністр маёмасці і прыватызацыі Васіль Новак, Дэкрэт Прэзідэнта № 3 дазваляе праводзіць такія аўкцыёны па меры неабходнасці. А значыць, працэс вялікай прыватызацыі стане больш рэгулярным і інтэнсіўным. Папярэдні ж чэкавы аўкцыён прайшоў яшчэ 29 лістапада 1996 года.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ДАР БДУ

Балгарскі фонд "Славяне" прыняў рашэнне аб перадачы Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту 720 тамоў спецыяльнай літаратуры. Як паведамілі ў прэс-службе МЗС рэспублікі, гэтая акцыя арганізавана пры пасрэдніцтве пасольства Беларусі ў Балгарыі ў рамках супрацоўніцтва паміж балгарскай Федэрацыяй дружбы з народамі СНД і Расіі, а таксама іншымі арганізацыямі.

ГАНАРОВЫ ДЫПЛОМ СПАЖЫЎЦА



"Ганаровы дыплом спажыўца" атрымаў калектыў Чачэрскага вінаробчага завода. З адзінаццаці назваў прадукцыі пладова-ягадныя напіткі "Над Чачорай", "Крынічнае", "Надзея" ўдастоены ганаровага дыплома ў Мінску на выставе "Экспа-Форум".

**НА ЗДЫМКУ:** узоры новай прадукцыі правяраюць галоўны інжынер прадпрыемства Вера **ГАЗУКІНА** і намеснік дырэктара Генадзь **МАЛАЛЕТНІКАЎ**.

Фота **Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА**. БелТА.

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

ВАЛАВЫ ЎНУТРАНЫ ПРАДУКТ Беларусі ў першым паўгоддзі 1998 года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павялічыўся на 12,5 працэнта. А колькасць стратных прадпрыемстваў і арганізацый узрасла з 22,9 да 24 працэнтаў.

У 5 КАЛГАСАХ БЕЛАРУСІ сяляне яшчэ не атрымалі зарплаты за люты 1998 года. Агульная сума запазычанасці ў гэтых гаспадарках склала 677 мільёнаў рублёў. А сакавіцкую зарплату (10,8 мільярда рублёў) яшчэ не выплачвалі 72 гаспадаркі.

ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ летась працавалі легальна 3 226 нашых суайчыннікаў. Нелегальна працуюць за мяжой каля 50 тысяч грамадзян Беларусі.

КАЛЯ СТАНЦЫІ ЧАВУСЫ былі знойдзены рэшткі артылерыйскага склада часоў Вялікай Айчыннай вайны. Больш за суткі працавалі сапёры, абясшкоджваючы боеприпасы. Было размініравана 111 артылерыйскіх снарадаў і 132 мінамётныя міны.

ЧАРГОВЫ ВЫПУСК ЛЕЙТЭНАНТАЎ адбыўся ў Магілёўскай сярэдняй школе міліцыі. Упершыню за 50-гадовую гісторыю існавання школы сёлета было выпушчана адразу аж 323 афіцэры.

ПАЧАЛОСЯ ЖНІВО і ў самай паўночнай вобласці Беларусі — Віцебскай. Ужо ўбраны раннеспелы ячмень з першай тысячы гектараў. Намалот складае ў сярэднім па 24,9 цэнтнера зерня з гектара.

ПЕРШЫ ВЫПУСК МАГІСТРАЎ па спецыяльнасці "Тэорыя мастацтваў" адбыўся ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя Машэрава.

НАРКОТЫКІ І ЗЛАЧЫННАСЦЬ

# СІТУАЦЫЯ СТАНДАРТНАЯ

Сітуацыя з абаротам наркотыкаў, што склалася ў Беларусі, трывожная. За апошнія 10 гадоў колькасць злачынстваў, звязаных з ужываннем і распаўсюджаннем наркотыкаў, павялічылася больш чым у 10 разоў. За тыя ж 10 гадоў канфіскацыя наркотыкаў з нелегальнага абароту ўзрасла ў 41 раз. І хаця колькасць наркаманаў, што стаяць на ўліку ў медыцынскіх установах за той жа перыяд павялічылася толькі ў 5,7 раза, яны робяць істотны ўплыў на крымінагеннае становішча, бо колькасць злачынстваў, учыненых асобамі ў стане наркатычнага ап'янення, узрасла больш чым у 25 разоў.

Тым не менш, на думку супрацоўнікаў МУС, калі параўнаць гэтыя лічбы з аналагічнымі паказчыкамі ў іншых краінах, атрымаецца зусім стандартная сітуацыя, бо, па ацэнках ВОЗ і Еўрапейскага саюза, сёння ў свеце на 100 тысяч жыхароў налічваецца каля 600 наркаманаў. У нас гэтая лічба складае каля 30 чалавек на 100 тысяч жыхароў, ці 4 тысячы зарэгістраваных наркаманаў. Аднак заўважым, што размова ідзе аб афіцыйных даных, якія згодна з тым жа сусветным вопытам, можна спакойна памнажаць у 10, а то і ў 20 разоў. Так, хаця ў Светлагорску на ўліку стаіць каля 500 наркаманаў, паводле даных незалежных экспертаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, на самай справе іх колькасць вагаецца ад 3 да 4 тысяч. Абследаванне, праведзенае ў Светлагорску Міністэрствам аховы здароўя сумесна з галандскім цэнтрам па барацьбе з распаўсюджваннем наркотыкаў, паказала, што там адносна свабодна можна набыць наркатычныя сродкі, а сярэдні ўзрост наркамана ў Беларусі складае 25 гадоў.

Паводле даных Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі, колькасць злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам наркотыкаў, за 1996 год склала 2 059, што на 32,8 працэнта больш, чым у 1995 годзе. За 8 месяцаў 1997 года рост колькасці злачынстваў у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года склаў ужо 43,7 працэнта. Летась наркаманамі і асобамі ў стане наркатычнага ап'янення было ўчынена 1 680 злачынстваў, усяго ж у мінулым годзе было ўчынена каля 8 тысяч злачынстваў, так ці інакш звязаных з наркотыкамі, што складае ад 8 да 10 працэнтаў ад агульнай колькасці ўчыненых злачынстваў. У асобных гарадах колькасць такіх злачынстваў значна большая. Так, у Светлагорску гэтая лічба складае 30 працэнтаў. Большая частка з іх звязана са здабываннем грошай на наркотыкі. Нядаўна супрацоўнікамі органаў МУС у Баранавічах затрымалі наркамана. Праведзеная аператыўная работа паказала, што ім учынена 6 кватэрных крадзяжоў, 5 — з аўтамабіляў, угон аўтамашыны...

Аб распаўсюджанні наркотыкаў у краіне гаворыць і тое, што ў мінулым годзе было выяўлена 9 174 незаконныя пасевы маку, у той час як у 1996 годзе іх было выяўлена толькі 4 628. Калі ў 1994 годзе ў злачынцаў канфіскавана 66,3 кілаграма гатовых наркотыкаў, то за 1996 — 1 846 кілаграмаў наркаўтрымліваючай сыравіны (на 25,7 працэнта больш, чым у 1995 годзе) і 96,7 кілаграма наркатычных сродкаў. За 5 месяцаў 1997 года супрацоўнікамі міліцыі канфіскавана амаль 88 кілаграмаў наркотыкаў, у 1996-ым грамадзянамі, што знаходзіліся пад кайфам, учынена 721 злачынства, што на 51 працэнт больш, чым у 1995 годзе і ў 3,5 раза больш, чым у 1994 годзе.

Сёння Мінск па ўзроўню злачыннасці, звязанай з наркотыкамі, знаходзіцца на другім месцы пасля лідзіруючага па гэтай праблеме Гомеля. Што датычыцца злачынстваў, учыненых наркаманамі і асобамі ў стане наркатычнага ап'янення, наш горад на трэцім месцы.

У адрозненне ад Гомеля і раённых цэнтраў, дзе, як правіла, адбіраюць макавую саломку, у Мінску — больш наркотыкаў гатовых форм. Тут у першай палове 1997 года было спынена 159 злачынстваў, звязаных з наркатычнымі сродкамі, 104 чалавекі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. У ходзе аператыўных дзеянняў сталічная міліцыя канфіскавала 44 кілаграмы наркаўтрымліваючай сыравіны і 50 літраў опію, больш за паўкілаграма гераіну. Каб гэтая лічба не здавалася занадта нязначнай, заўважым, што наркаману для ін'екцыі патрэбна ад чвэрці да паўграма ў дзень.

Паводле даных Міністэрства ўнутраных спраў, цэнтрамі распаўсюджвання наркотыкаў вельмі часта выступаюць гарадскія дыскатэкі. Месяц назад у час правядзення аперацыі ў Савецкім раёне Мінска быў выяўлены і канфіскаваны гераін у клубе "Рэактар". Зрэшты, часцей за ўсё на дыскатэках можна сустрэць сінтэтычныя наркотыкі. Упершыню яны былі сінтэзаваны ў 1898 годзе з алкалоідаў мускатнага арэха, у 1914 годзе сінтэтычны наркотык быў запатэнтаваны фірмай "Мек", аднак у далейшым ён не выкарыстоўваўся з-за выражанага псіхатропнага эфекту. У 50-я гады аб ім успомніла Міністэрства абароны ЗША, пры фінансавай падтрымцы якога былі праведзены выпрабаванні на розных відах жывёл, вынікі былі апублікаваны значна пазней...

Тое, што сёння большасці вядома як "экстазі", тычыцца прэпаратаў дызайнерскай групы, і запамінаць іх назвы няма ніякага сэнсу, бо новы сінтэтычны наркотык з'яўляецца кожныя два тыдні. Наведвальнікам жа дыскатэк яны вядомыя пад назвамі "Адам", "ХТС", "Ева" і многімі іншымі. Зрэшты, усе яны выраблены на базе амфітамінаў і вядомыя ўрачам пад агульнай назвай MDMA. МУС Беларусі плануе ў далейшым праверкам дыскатэк надаваць асабліва пільную ўвагу. Больш таго, не выключана, што хутка будзе прыняты асобны Закон аб наркотыках, які павінен прадугледжваць адказнасць кіраўніцтва падобных устаноў за распаўсюджванне там наркатычных рэчываў.

Галоўная небяспека сінтэтычных наркотыкаў заключаецца ў тым, што тыя, хто пачынае іх прымаць, даволі хутка пераходзяць да прэпаратаў опійнай групы. Пастаўляюцца яны, як правіла, з Прыбалтыкі і Заходняй Еўропы. Але вядомыя выпадкі, калі іх вытворчасць ажыццяўлялася на тэрыторыі Беларусі. Так, супрацоўнікі Віцебскага медінстытута на кафедры фармацэўтычнай хіміі распрацоўвалі моцнадзеючыя сінтэтычныя наркотыкі, за што і атрымалі ад 7 да 10 гадоў зняволення.

Паводле даных урачоў-нарколагаў, практычна ў кожнай мінскай школе ёсць па некалькі вучняў наркаманаў і таксікаманаў. Пастаянна расце колькасць людзей, уцягнутых у наркабізнес. За 1996 год іх колькасць у рэспубліцы павялічылася на 22,4 працэнта і склала 1 343 чалавекі. Цікава, што да наркабізнесу пачынаюць далучацца пенсіянеры. Так, у адным з раёнаў Гомельскай вобласці збяднелыя сельскія жыхары займаліся вырошчван-

**(Заканчэнне на 5-й стар.)**

# СМАЛЯВІЦКІЯ ШЛЯХІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**




нікоў нямала пытанняў аб узаемаадносінах, але і ўсяляе надзею на паляпшэнне эканамічнага стану ўсёй Смалявіччыны. Урэшце, цяжкасці і складанасці ў раёне — агульныя, як і ў іншых. Але ёсць і асаблівасці. Напрыклад, вельмі востра стаіць праблема заработнай платы. Тут проста вымушаны трымаць яе на адносна высокім узроўні: пад бокам Мінск, не будзеш больш-менш прыстойна людзям плаціць — тут жа з'едуць у горад. Смалявічы — гэта вам не глыбінка, дзе ўсё роўна няма куды дзецца, а таму стогнуць, але церпяць і працуюць нярэдка ці не задарма. Ведаю прыклады, калі заробак калгасных даярак складаў 700—800 (а бывае і меней!) тысяч беларускіх рублёў — прыкладна 13—15 долараў.

## ВЯСКОВЫЯ СЦЯЖЫНКІ

Але вось у смалявіцкім калгасе імя Арджанікідзе — увогуле, як кажуць, моцнай гаспадарцы, у маі даяркам заплацілі па 4 мільёны 900 тысяч рублёў. Калгасныя механізатары атрымалі па 5 мільёнаў 100 тысяч рублёў. Хаця і гэта далёка не тыя сумы, якія б адпавядалі сённяшняму ўзроўню беларускіх цэн. Аднак значную падтрымку маюць калгаснікі ад прысядзібнай гаспадаркі. Адно да аднаго — вось так людзі і трымаюцца.

Калгас імя Арджанікідзе — гаспадарка не малая: 450 работнікаў, шматпрофільная. Прыкладна 60 працэнтаў даходу прыносіць вырошчванне гуркоў і памідораў у цяпліцах і адкрытым грунце. Гароднінай нашы людзі не спешчаныя, таму прадукцыя, што прапануе калгас, дарэчы, вельмі якасная, ідзе добра. Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, тут не толькі не "запусцілі" цяплічную гаспадарку, але і клапоцяцца пра развіццё. Расказвае Аляксандр ЕРМАЛОВІЧ, начальнік цяплічнага камбіната:

— Нашаму камбінату ўжо 15 год. На жаль, сёння мы вымушаны канстатаваць, што пік прыбытковасці пакуль застаецца ў мінулым. Калісьці з цяпліц калгас атрымліваў вельмі добрыя грошы, лічыўся гаспадаркай-мільянерам. Сёння камбінат, канечне ж, рэнтабельнае вытворчае звяно, але даход невялікі. Шмат сродкаў спатрэбілася, каб перайсці на эфектыўную сучасную галандскую тэхналогію вырошчвання гародніны. Давялося ўкласці па 60 тысяч долараў на кожны гектар цяпліцы — сюды ўвайшоў кошт абсталявання, тэхналогіі і навучання. Але зараз усе выдаткі ўжо акуплены. Таму сёлета можна казаць пра пэўную стабільнасць у рабоце, ды і ўраджай нядрэнны, спадзяёмся на добрыя канчатковыя вынікі: па 30 кілаграмаў з квадратнага метра памідораў — у нас яны займаюць 6 гектараў, па столькі ж агуркоў з 2-х гектараў. Частку прадукцыі — працэнтаў 36 — адпраўляем у Расію, усё астатняе рэалізуем на ўнутраным рынку.

Мае калгас невялікі ўласны перапрацоўчы малочны заводзік, дзе выпрабляецца сыр, масла, малако, смятана. Абсталяванне — таксама замежнай вытворчасці, акупляецца за паўтара года, хаця пакуль яшчэ калгас цалкам за яго не разлічыўся. Але праблем не павінна быць: рэнтабельнасць гэтай невялікай вытворчасці 48 працэнтаў.

Калгас "Рассвет" таксама сёння далёка не з горшых, хаця раней асабліва нічым не вылучаўся. Яго старшыня Фёдар Хацяноўскі кажа так: "Быў перыяд выжываемасці, які вымушаў і адначасова натхняў на сапраўдную творчасць". Справы рухаюцца, нягледзячы на тое, што колькасць працуючых значна зменшылася: на вёсцы ўвогуле, а ў апошнія гады асабліва, хлеб не з лёгкіх. Але Фёдар Рыгоравіч імкнецца людзей зразумець і, як сам жартуе, кожнаму, хто звальняецца, на развітанне налье шклянку гарэлкі і скажа "дзякуй".

Апошнім часам калгаснае кіраўніцтва, акрамя асноўнага, — вытворчасці сельгаспрадукцыі, зрабіла стаўку на яе перапрацоўку, палічыўшы гэта ў сённяшніх умовах эканамічна мэтазгодным, бо спецыялізаваныя перапрацоўшчыкі плацілі за калгасную сыравіну літаральна капейкі. І, трэба сказаць, хутчэй за ўсё ў разліках не памыліліся. А на пачатку, чатыры гады таму, на дапамогу калгаснікам прыйшлі навукоўцы, якія "ўдружылі" крыху добрага насення пшаніцы з высокім утрыманнем клейкавіны. Дарэчы, летась калгас меў гэтай пшаніцы ўжо 2 тысячы тон. Зараз з атрыманай мукі першага і вышэйшага гатункаў тут робяць макароны. Цэх працуе круглыя суткі, без выхадных і святаў. Выключэнне робіцца толькі на Вялікдзень і Радаўніцу. У астатні час кожныя дзень-ноч — 2,5 тоны прадукцыі.

Безумоўна, ёсць у калгасе і ўласная пякарня, адкуль выходзіць смачная здоба. Як кажа старшыня, яны са сваімі булкамі "захапілі рынак сельскіх школьных буфетаў"...

Мае калгас "Рассвет" птушкафабрыку, цэх па перапрацоўцы гародніны. Нядаўна пачала працаваць вінная вытворчасць. У выніку, калі мінулы год "Рассвет" рэалізаваў прадукцыі на 69 мільярдаў рублёў (і, дарэчы, стаў амаль ці не лідэрам у раёне па даным паказчыку), то сёлета за 5 месяцаў — ужо 50 мільярдаў, а за год плануецца рэалізацыі прыблізна на 180 мільярдаў рублёў.

Дакладны разлік, ініцыятыўнасць, прадпрымальнасць — гэтыя якасці ўжо не раз даказалі сваю неабходнасць і актуальнасць у сучасным гаспадарчым жыцці. Таму на тэрыторыі "Рассвета" "знайшоў прытулак" Смалявіцкі раённы цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва і іншых суб'ектаў гаспадарання. Тут дапамагаюць тым, хто жадае паспрабаваць сябе ў якой-небудзь уласнай справе, але не ведае, дзе прыкласці сілы і энергію, або, як правільна гэта зрабіць. Пры садзейнічанні інвестцэнтра на тэрыторыі раёна развіваецца сетка аўтазаправачных станцый, якія павінны адпавядаць еўрапейскім стандартам. Летась намаганнямі супрацоўнікаў цэнтра было прыцягнута тры мільярды рублёў дадатковых інвестыцый. А ўвогуле ў Смалявіцкім раёне прадпрыемствы недзяржаўнай формы ўласнасці прыносяць у агульны бюджэт 40—45 працэнтаў даходнай часткі.

## ПЕРСПЕКТЫЎНЫ НАПРАМАК

Як ужо гаварылася, на тэрыторыі Смалявіцкага раёна размешчаны такі "слынны" аб'ект, як галоўныя паветраныя вароты краіны — аэрапорт "Мінск-2". На жаль, сёння гэтыя "вароты" таксама страцілі ў сваім значэнні. Пачынаючы з 1991 года, тут ідзе падзенне вытворчасці — сёння ўжо можна казаць пра падзенне, прыблізна ў 4,5 раза. Змяншаецца колькасць як пасажырскіх рэйсаў, так і грузавых перавозак. Таму кіраўніцтву неабходна нешта тэрмінова рабіць, каб лётнае поле ўвогуле не зарасло лебядою, і ўжо здараецца, што ў вялізным аэравакзальным комплексе можна хадзіць па шматлікіх холах і не сустрэць "жывую душу". Карацей, эканамічная, палітычная і маральная абстаноўка наспела для таго, каб абвясціць на тэрыторыі аэрапорта свабодную эканамічную зону (СЭЗ), якая з'яўляецца састаўной часткай свабоднай эканамічнай зоны "Мінск". Сюды ўваходзяць выключна вытворчыя і мытныя аб'екты. Не ўключана ніводнага квадратнага метра жылой забудовы і сацыяльнай сферы. Пакуль.

У СЭЗ "Мінск", можна лічыць, аўтаматычна трапілі дзесяткі існуючых на яе тэрыторыі прадпрыемстваў. Але гэтая акалічнасць зусім не азначае, што ўсе яны, таксама аўтаматычна, атрымаюць, адпаведныя дзейнасці СЭЗ, ільготы. Увогуле, галоўнымі мэтамі ставяцца: ажыўленне досыць занядбаных вытворчых арэалаў і прыцягненне інвестыцый у будоўлю, машынабудаванне, перапрацоўку. Уступленне ў СЭЗ — на конкурснай аснове. Кіруе свабоднай эканамічнай зонай спецыяльна створаная адміністрацыя.

Аднак выгада ад дзейнасці СЭЗ для Смалявічаў хаця і рэальная, але — перспектыва. Жыць жа даводзіцца днём сённяшнім, грошы патрэбны таксама менавіта сёння. А зарабляць іх усё цяжэй і цяжэй. Напрыклад, раённая спажыўкааперацыя, якая вядзе практычна ўвесь раённы гандаль, у 1991-ым годзе мела 46 прадпрыемстваў грамадскага харчавання, а зараз іх засталося толькі 24. Астатнія ўзялі пад сваё крыло мясцовыя калгасы і саўгасы. Здавалася б, вытворчая база зменшылася, але тым не менш тут у кожным рублі прададзенай прадукцыі на 43 капейкі — уласнай вытворчасці. І гэта лічыцца нядрэнным.

Неяк "выкручваюцца" і на доследна-механічным заводзе, дзе за апошнія гады спазналі "смак" самых розных рэарганізацый і перабудоў. Прадпрыемства пасля раней традыцыйнага для ўсіх дзяржаўнага статусу паспела ўжо пабыць арэндным і ў выніку шэрагу фінансавых непрыемнасцей зноў практычна стала дзяржаўным: не кожны вытрымлівае штармы і буры свабоднага плавання. Хаця сёння завод усё ж трымаецца на плаву. Праўда, такое ўражанне — з апошніх сіл. Удзельная норма падаткаў на рубель прадукцыі — 31 працэнт, каля 60 працэнтаў — кошт матэрыялаў, астатнія дзесяць — энерганосьбітаў. І што застаецца на развіццё? А нічога. І хаця на працягу некалькіх апошніх год сярэдняя заработная плата трымаецца недзе на ўзроўні 110 долараў ЗША, павысіць яе пакуль магчымасці няма.

Аднак прадпрыемства працуе, і гэта галоўнае. Больш таго — складае планы на будучыню. А гэта ўжо ўсяляе надзею на лепшае. Дарэчы, так і павінна быць. Не трэба толькі біць беларуса па руках, трэба даць яму крыху свабоды і трошачкі дапамагчы ў цяжкі момант. І ён будзе сам жыць і дасць жыць іншым.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# СУВЕРЭНІТЭТ – ГАРАНТЫЯ ЦЫВІЛІЗАВАНАГА РАЗВІЦЦЯ НАРОДА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ся, актыўна ўдзельнічаў у паўстаннях 1830—1831 і 1863—1864 гадоў. На вялікую бяду нашага народа, усе тагачасныя спробы здабыць сабе волю, прыстойнае нацыянальна-дзяржаўнае жыццё не ўвянчаліся поспехам. І, бясспрэчна, адна з галоўных прычын няўдачы выступлення Кастуся Каліноўскага — нізкая этнічная самасвядомасць сялян. Большасць з іх вельмі слаба разумела значэнне нацыянальнай дзяржаўнасці. З гэтае прычыны многія з іх, як толькі даведваліся, што мясцовыя ўлады ідуць нават на самыя мізэрныя сацыяльна-эканамічныя ўступкі, адыходзілі ад далейшай барацьбы. Аднак царскім войскам удалося перамагчы паўстанцаў Каліноўскага, у шэрагах якіх шмат было інтэлігенцыі, толькі фізічна, бо сама ж ідэя беларускай нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці працягвала жыць, знаходзіць сабе ўсё новых і новых прыхільнікаў. Яе не магло не падтрымаць і студэнцтва, на той час — адна з самых перадавых частак грамадства. Гэтая катэгорыя беларускай моладзі была вельмі добра прадстаўленай у навучальных установах Санкт-Пецярбурга. У другім (ён жа быў і апошнім) нумары рускамоўнага часопіса "Гомон" за 1884 год яны так выказалі сваю пазіцыю: "Усялякая нацыя, як і ўсялякая асоба, не толькі мае права, але і абавязана абараняць сваю самастойнасць ва ўсім, што не супярэчыць развіццю чалавецтва ўвогуле і кожнай чужой нацыі ў прыватнасці. Усялякая таму нацыя, якой бы яна слабай ні была, заслугоўвае поўнага прызнання яе самастойнасці і ўсялякую спробу з боку іншых нацый задушыць гэтую слабую суседку трэба прызнаць шкоднай, пад якой добрапрыстойнай падставай яна не ўзнікала б, не толькі для гэтай слабай нацыі, але і для самой прыгнятальніцы. Не паважаючы чужую самастойнасць, пераможца тым самым не паважае сваю і, прытрымліваючы ў сваіх членах дух насілля, сам рызыкуе апынуцца пад тыраніяй паасобных членаў сваёй нацыі".

З пашырэннем і паглыбленнем у канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў нацыянальна-вызваленчага руху сярод нярускіх народаў ідэя нацыянальна-культурнай аўтаноміі, дзяржаўнай самастойнасці станавілася ўсё больш папулярнай і для беларусаў. Таму наіўна думаць, што Беларуская Народная Рэспубліка ўзнікла з ласкі кайзераўскай Германіі, якая акупавала значную тэрыторыю нашага краю, а Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — з падачы Леніна, Сталіна і іх паплечнікаў.

Да вышэйназваных нацыянальна-дзяржаўных утварэнняў беларускі народ прыйшоў праз упартую барацьбу, вялікую страту сваіх найлепшых сыноў і дачок. А якую непахісную волю, бязмежнае жаданне жыць у суверэннай краіне праявіў ён нават і пасля таго, як у выніку лютаўскага 1919 года далучэння да Расійскай Федэрацыі Магілёўскай і Віцебскай губерняў нашая маладая дзяржава ўключала ў сябе толькі тэрыторыю адной Міншчыны! Не сумняваюся, хтосьці з тагачасных палітычных дзеячаў Савецкай Расіі разлічваў, што ў такіх крайне неспрыяльных умовах самі беларусы не пагодзяцца на ўласнае дзяржаўнае развіццё і абавязкова папросяцца пад апеку магутнага ўсходняга суседа. Не, на такое беларусы не пайшлі, бо стаміліся быць негаспадарамі ва ўласным доме, бо добра ведалі, што толькі дзяржаўны суверэнітэт нарэшце дапаможа ім здзейсніць свае высакародныя нацыянальныя ідэалы. Імі жылі не толькі беларусы самой БССР, але і тыя, землі якіх, насуперак усялякай справядлівасці, адышлі да РСФСР ці Польшчы.

Цяпер у нас пэўныя колы навукоўцаў і палітыкаў любяць пісаць і гаварыць аб наяўнасці спрадвеку на Віцебшчыне, Гомельшчыне, Магілёўшчыне нейкіх антыбеларускіх цэнтрабежных плыняў, аб супрацьправавым далучэнні гэтых тэрыторый у 1924 і 1926 гадах да БССР. З апошняга роду плёткамі і сапраўды даводзілася тады мець справу. Але ж яны ўзнікалі не ў асяроддзі простых людзей, а распаўсюджваліся высокімі партыйнымі і дзяржаўнымі дзеячамі, большасць якіх, накшталт іх паплечнікаў у БССР, не належалі да людзей мясцовага ці беларускага паходжання. Таму нічога дзіўнага няма, што Гомельскі губернскі камітэт бальшавіцкай партыі ўвесь час, а тым больш напярэдадні самой перадачы гэтых гістарычных беларускіх зямель у склад БССР, супраціўляўся такой заканамернай акцыі і прыняў адпаведную пастанову. Як толькі такія несправядлівыя, антыбеларускія рашэнні партыйнага органа дайшлі да шырокіх народных мас, гэта адразу ж выклікала вялікую занепакоенасць у людзей, і асабліва ва ўлюбёнай у родны край інтэлігенцыі. У асяроддзі яе нарадзіліся наступныя ананімныя вершаваныя радкі:

**На нашым карку торг**
**спраўляе смела**
**Масква з Варшавай, з Рыгай**
**і Літвой,**
**І наша змучанае катам цела**
**Штогодна новай кроіцца**
**мяжой.**

**Масква сусвету вушы**
**прашумела**
**Пра самавызначэнне**
**аж да зор.**
**Смаленск дзе! Невель!**
**Гомель дзе падзела!**
**Стварыла Гомельскі**
**ганебны калідор.**

Я зусім далёкі ад думкі, што ўсё зробленае Масквой па рассячэнні беларускай этнічнай тэрыторыі — гэта справа рук сапраўды рускіх, паводле нацыянальнай самасвядомасці дзяржаўных і партыйных дзеячаў. Кроў у жылах гэтых высокіх палітыкаў магла цячы і руская, а вось у адносінах да сваіх братоў — беларусаў у іх і на грам не было нічога рускага. У той час вырашэннем такога роду буйнамаштабных палітычных задач найчасцей займаліся асобы нярускай нацыянальнасці, для якіх дружба паміж рускім і беларускім народамі з'яўлялася зусім пабочнай справай.

Зайздросную ўпартасць у адстойванні незалежніцкай ідэі выявілі беларусы, што не па сваёй волі вымушаны былі ўвесь міжваенны перыяд знаходзіцца пад уладай Польшчы. Гэтая ідэя аб'ядноўвала пад сваім сцягам нават і грамадска-палітычныя рухі, якія па многіх іншых пазіцыях маглі не пагаджацца паміж сабой, мець дыяметральна процілеглыя погляды.

Як вядома, Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна параскідалі многіх шчырых носьбітаў беларускай ідэі па ўсім свеце. Але дзе б яны ні былі, іх заўжды хвалявала пытанне, як ідзе станаўленне дзяржаўнасці на Бацькаўшчыне. Багата зрабіў для абгрунтавання і прапаганды ідэі нацыянальнага суверэнітэту беларускай дзяржавы наш вядомы палітычны і грамадска-культурны дзеяч, сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускамоўны ксёндз Вінцэсь Гадлеўскі (расстраляны ў 1942 г. у Мінску гестапаўцамі). Яму належыць такая слушная, вельмі актуальная і на сёння думка: "Усебакова развіваць свае нацыянальныя вартасці нацыя зможа толькі ў сваёй дзяржаве. Ды і дзяржавы па Вялікай вайне (маецца на ўвазе першая сусветная. — **Л. Л.**) паўставалі найбольш на нацыянальнай, а не на якой іншай падставе, добра, мусіць, разумеючы, што нацыянальныя асаблівасці (мова, нацыянальны характар, звычаі) найбольш лучаць і цэментуюць людзей.

Гісторыя нас вучыць, што дзяржавы, складзеныя з некалькіх нацыянальнасцяў, развальваюцца, а не было выпадку, каб развалілася дзяржава, складзеная з адной свядомай нацыі. Дык для дабра нацыі і дзяржавы трэба, каб гэтыя два паняцці супадалі, творачы адно цэлае".

БССР далёка не спраўдзіла спадзяванні лепшай часткі беларускага народа мець сваю ўласную незалежную, суверэнную дзяржаву. І такога не атрымалася не па яго віне. Проста партыйны цэнтр, што знаходзіўся ў маскоўскім Крамлі, вельмі рана пайшоў на свядомае абмежаванне дзяржаўнага суверэнітэту ўсіх саюзных рэспублік, у іх ліку і Беларусі. Без папярэдняга ўзгаднення з гэтым цэнтрам яна магла самастойна вырашаць толькі самае вузкае кола трэцярадных пытанняў. Пад асаблівым кантролем знаходзілася замяшчэнне высокіх пасад у дзяржаўна-партыйным і адміністрацыйна-гаспадарчым апаратах, карных органах. У іх вельмі шмат працавала прысланых партыйным цэнтрам людзей, якія не ведалі ні культуры, ні мовы карэннага насельніцтва нашага краю. Як гэта можа пахіснуць дзяржаўны суверэнітэт Беларусі, добра разумелі не толькі яе мясцовыя, з высокай нацыянальнай свядомасцю дзяржаўныя і партыйныя дзеячы, але і многія прадстаўнікі навуковай, творчай інтэлігенцыі. У адваротным выпадку ў паэта Алеся Дудара не з'явіліся б такія радкі ў яго рукапісных вершах (канфіскаваны нкусаўцамі ў сакавіку 1929 г. у час вобыску ў мінскай кватэры паэта):

**Будзіць волатаў косці,**
**Будзіць сафійскі звон.**
**Прыйшлі вы да нас у госці**
**І нам надзелі ярмо.**

Каб у партыйным цэнтры маскоўскага Крамля высокія ўплывовыя асобы па-сапраўднаму дбалі аб умацаванні сяброўства двух славянскіх народаў — рускага і беларускага, яны не дапусцілі б такой дэфармацыі нацыянальнага суверэнітэту БССР, не навязвалі б ёй свой лад эканамічнага, сацыяльна-палітычнага і духоўнага жыцця, не экспартавалі б сюды сваю адмысловую каманднабюракратычную сістэму. Па сутнасці БССР будавала сваё жыццё пад партыйна-маскоўскую капірку, амаль зусім не ўлічваючы гістарычных традыцый, мясцовай спецыфікі. І БССР дабудавалася, нарэшце, да таго, што на ўзроўні масавай свядомасці, сярэднестатыстычнага беларуса ідэя дзяржаўнай незалежнасці практычна страціла сваю актуальнасць. Гэтая ідэя ніколі не згасала толькі ў самай элітарнай, нацыянальна свядомай часткі беларускага народа, якой з'яўлялася пераважна інтэлігенцыя. З вуснаў яе прадстаўнікоў мне ў 60—80-я гады не раз даводзілася чуць глыбока запалыя ў памяць словы, што толькі з-за страты дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі адбываецца, ідзе да свайго канчатковага завяршэння працэс культурна-моўнай асіміляцыі яе карэннага насельніцтва. Разам з гэтым выказвалася цвёрдая ўпэўненасць, што з дапамогай па-сапраўднаму суверэннай дзяржавы вельмі хутка можна будзе спыніць небяспечны працэс размывання нацыянальнага патэнцыялу беларускай культуры, вярнуць на пачэсны пасад нашу родную занядбаную беларускую мову. І логіка прысутнічала ў гэтых словах, бо сусветнай практыцы вядома даволі багатая колькасць прыкладаў, калі з дапамогай дзяржавы народы выходзілі пераможцамі з неверагодна цяжкага становішча, выкараскваліся з-пад любых форм асіміляцыі, выводзілі з тупіка і поўнага занядбання сваю нацыянальную культуру і мову, чым здабывалі вялікую павагу ў цывілізаванага свету.

У сваіх разважаннях аб святой ідэі беларускай дзяржаўнасці не магу не сказаць пару добрых слоў пра сваіх суродзічаў за мяжой, таму што многія з іх нязменна з вельмі вялікай пашанай ставіліся да нацыянальнага суверэнітэту роднай Бацькаўшчыны. Прычым нават і ў апошняе чвэрцьстагоддзе да "гарбачоўскай перабудовы", калі ў метраполіі толькі ў самым вузкім коле інтэлігентаў і крайне рэдка заходзіла гаворка пра парушэнні дзяржаўнага суверэнітэту БССР. У многіх краінах планеты, дзе існавалі і сёння існуюць беларускія эміграцыйныя суполкі, як самае вялікае свята штогод адзначалася 25 сакавіка — дзень абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Як змалку адлучаным ад бацькоў дзецям цяжка бывае прывыкнуць да сваіх родных маці і таты, так і многім беларусам, якія стагоддзямі не адчувалі сябе сапраўднымі гаспадарамі ва ўласнай хаце, не дужа хочацца быць палітычна вольнымі людзьмі. Прычым на комплекс дзяржаўнай залежнасці хварэе не толькі просты люд, але і буйныя, як яны самі сябе лічаць, палітыкі, а таксама не пазбаўленыя таленту ў сваіх галінах дзейнасці прадстаўнікі навуковай і творчай інтэлігенцыі. Так атрымалася, што сёння такія палітыкі пераважаюць ва ўсіх звеннях улады і кіравання, уключаючы і самыя высокія. Яшчэ зусім нядаўна, за бальшавіцкім рэжымам, яны знаходзіліся ў прывілеяваным становішчы, проста выдатна працавалі на саюзныя органы, не будучы абцяжаранымі весці самастойную эканамічную, сацыяльную, культурную палітыку. Цяпер жа перад нашымі кіраўнікамі паўсталі задачы зусім іншага парадку: усё трэба вырашаць самім. А яны ж не ўмеюць свой дзяржаўны карабель весці самастойным курсам і адзіную магчымасць захавацца на высокапрэстыжных і добрааплатных пасадах бачаць толькі ў выпадку самай цеснай эканамічнай, палітычнай і культурнай інтэграцыі сваёй краіны з Расіяй, не зважаючы, што гэта можа прывесці не толькі да істотнага абмежавання, але і да поўнай страты намі свайго дзяржаўнага суверэнітэту. І тут няма чаго дзівіцца з паводзінаў такіх людзей, бо за незалежнасць краіны заўсёды змагаліся і змагаюцца толькі асобы з высокай нацыянальнай самасвядомасцю. Яна ж у нашага народа, не выключаючы і яго шматлікіх палітычных лідэраў, ледзь не дашчэнту дэфармаваная.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

**ГАЛОЎНАЯ ПРАБЛЕМА ДЗЯРЖАЎНАГА КНІЖНАГА ГАНДЛЮ — БЕЗГРАШОЎЕ СПАЖЫЎЦА**

## «У КНІЖНЫ МАГАЗІН ТРЭБА ЎВАХОДЗІЦЬ...»

**Вялікая колькасць чыста камерцыйных выданняў на вулічных латках, у падземных пераходах — карціна, знаёмая жыхару кожнага вялікага горада. На яркіх вокладках дэтэктыўных і любоўных раманаў падазронага зместу стаяць імёны часцей за ўсё невядомых аўтараў. Погляд міжволі шукае што-небудзь класічнае, прызнанае і знаёмае. І часта не знаходзіць...**

**Сёння камерцыйныя структуры маюць магчымасць "на корані" скупляць тыраж якога-небудзь мясцовага выдання, вывозіць прадукцыю за межы краіны, напрыклад, у Расію, прадаваць значна даражэй. Нярэдка падаткі з такіх аперацый не плацяцца. Натуральна, дзяржава церпіць страты, а айчынны чытач нават не бачыць усяго, што выйшла з друкарні. Аб сітуацыі на дзяржаўным кніжным рынку мы гутарым з дырэктарам сталічнага кніжнага магазіна "Вільна" Таццянай КАКОРЫНАЙ.**

*— Таццяна Віктараўна, добрая кніга сёння стала прадметам раскошы ў прамым сэнсе гэтага слова. Як гэта адбілася на кніжных магазінах?*

— Тое, што кніга — прадмет нятанны, не так ужо і дрэнна. На Захадзе добра выдадзеная кніга заўсёды была даступная толькі людзям даволі забяспечаным і бібліятэка ў доме — своеасаблівы паказчык дастатку. Гэта наша краіна лічылася самай чытаючай у свеце, і быў час, калі людзі імкнуліся набыць хоць якую-небудзь літаратуру і трацілі на яе пошукі шмат часу. Сёння ж пакупніцкая здольнасць упала, і выжыць тым, хто прадае кнігі, вельмі цяжка. А нашаму магазіну, які знаходзіцца ў "спальным" раёне, дзе няма офісаў фірм, дзелавое жыццё "дрэмле", увогуле цяжка. Хаця стараемся, выжываем. Напрыклад, сістэма "Пошук" працуе ў нас выдатна.

*— Што за сістэма?*

— Па заказу пакупніка мы гатовы, што называецца, лоб разбіць, толькі б дастаць кнігу. Бо прадаць адзін экземпляр — для нас ужо шчасце.

*— А што тычыцца падазроных выданняў, якімі запоўнены пераходы?*

— Людзі, якія чытаюць, пры такім напльіве літаратуры спачатку разгубіліся, але ўсе, хто ведае кнігу і ўмее цаніць яе, вельмі хутка разабраліся ў сітуацыі і зрабілі свой выбар.

*— Скажыце, калі ласка, што адбываецца сёння з класікай?*

— Вядома, арыентацыя на класіку ёсць. Адчуваўся голад у 1994—1995 гадах, а цяпер усё больш-менш у парадку. Вядома, гэта ў асноўным расійскія выданні. Нашых выдавецтваў засталося ўсяго 10, і цяпер ім вельмі нялёгка.

*— А беларускамоўная літаратура?..*

— Ёсць Быкаў, Караткевіч, Багдановіч, Міцкевіч... І ўсё гэта добра купляецца. Ёсць кнігі сучасных пісьменнікаў па гісторыі, этнічным развіцці нашага народа. Яны таксама карыстаюцца попытам. Ёсць выданні на беларускай мове, што выпускаліся сумесна з Фондам Сораса. У вялікай колькасці прадстаўлены выданні для дзяцей. Увогуле, робіцца акцэнт на беларускамоўную літаратуру.

*— І ўсё-такі, якая галоўная праблема сёння на дзяржаўным кніжным рынку?*

— Галоўная — безграшоўе спажыўца. І ўсё ж, нягледзячы на нялёгкія часы, неабходна помніць, што кніга, культура — гэта абавязковая ўмова духоўнага развіцця. І таму ў кніжны магазін трэба ўваходзіць, як у храм.

**Аляксандра ЦВЕРДАХЛЕБАВА.**
**("Белорусская газета").**

НАМ ПІШУЦЬ

# КУПАЛЛЕ Ў БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

*Ой, рана-рана на Яна*
*Сонца гуляла з Купала,*
*А лясы звінелі, як пелі,*
*А сяло дрыжала, музыка йграла...*

**Народная песня.**

Ужо каторы год традыцыйна беларусы Літвы ладзяць Купалле, якое спрадвеку святкавалася ў самую кароткую летнюю ноч. У аснове свята ляжыць пакланенне агню, вадзе, раслінам. Яно адбываецца на традыцыйным рытуальным месцы. Вось і ў нас ёсць такое месца, дзе мы ладзім Купалле другі год — каля маляўнічага возера за Свянцянамі. Загадзя рыхтаваліся, пісалі сцэнарый, развучвалі купальскія песні, знайшлі кола. У дзень святкавання некалькі аўтобусаў з Вільні накіраваліся ў бок Свянцян, а гэта больш за 70 кіламетраў. Там ужо чакалі тыя, хто прыехаў з Вісагінаса, Паброддзя, Свянцян. Дзяўчаты разыходзіліся на лясныя ўскраіны збіраць расліны для вянкоў. Каля поўначы развялі вогнішча, вадзілі карагоды, былі розныя гульні, песні, танцы, сумесная вячэра, скакалі праз вогнішча, пускалі вянкі ў ваду. У гэтым годзе свята "ўпрыгожылі" калектывы з Мінска "Дзянніца" і "Гармонікі". Усю ноч наваколле поўнілася музыкай, спевамі, вясёлымі жартамі.

Непрыкметна праляцела самая кароткая летняя ноч, адгарэла полымя святочнага агню, паволі ўсё пачало заціхаць. Некаму можа пашчасціла знайсці папараць-кветку...

Нягледзячы на не вельмі добрае надвор'е, свята адбылося. Стомленыя, поўныя ўражанняў раніцай вярталіся дамоў. Адрадзіла традыцыю святкаваць Купалле "Сябрына", яна і працягвае яе. І ў гэтым годзе, каб свята адбылося адпаведна беларускім абрадам, шмат зрабілі М. Русак, Н. Якшцене, Г. Бука, Н. Яруліна, В. Кавальчук, В. Іванова і кіраўнік "Сябрыны" Р. Вайніцкі.

Патапілі ў возеры Русалку-чараўніцу і развіталіся да наступнага года.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ЛЯВОНА КАРАЛЯ

Хто сказаў, што незаменных людзей няма? Кожны чалавек непаўторны. А калі ён яшчэ і гістарычная асоба. Такім быў Лявон Кароль для беларускай дыяспары Літвы. Нарадзіўся Лявон Сымонавіч на Валожыншчыне 1 траўня 1922 года. Бацька яго, Сымон Кароль, доўгі час працаваў выкладчыкам у Віленскай беларускай гімназіі, якую скончыў і Лявон, атрымаўшы не толькі трывалыя веды, але і выхаваны ў любові да роднага слова, культуры, гісторыі, да сваёй Бацькаўшчыны. Жыццё ўсё астатняе звязана з Вільняй. У Вільні закончыў універсітэт, хімічны факультэт, працаваў у Літоўскім інстытуце электраграфіі намеснікам кіраўніка аддзела. Як толькі пачалася ў краіне перабудова і можна было, не баючыся, сустракацца, размаўляць, ладзіць нейкія імпрэзы, Лявон Кароль быў адзін з нямногіх першых, хто ствараў "Сябрыну", ТБК, хор, дапамагаў у выбары рэпертуару, меў шмат літаратуры (яго бацька ў гімназіі выкладаў музыку, кіраваў хорам, любоў да беларускай песні перадаў і сыну). Лявон Сымонавіч ад пачатку не толькі браў удзел у хоры, але і на працягу больш дзесяці год быў салістам хору. Трэба зазначыць, што тыя беларускія суполкі культурныя, якія арганізаваліся ў Вільні напрыканцы 80-х, створаны былымі выпускнікамі і выкладчыкамі Віленскай беларускай гімназіі (1919—1944 гады). Лявон Кароль з пачатку дзейнасці ТБК быў членам рады, скарбнікам. Шмат выпісваў і чытаў беларускай прэсы: "ЛіМ", "Голас Радзімы", "Спадчына", "Полымя" і іншыя, заўсёды быў у курсе культурнага жыцця Беларусі. Часта прыходзіў у беларускую школу Вільні, сустракаўся з вучнямі, дзяліўся ўспамінамі, перадаваў веды, дапамагаў парадамі.

Да яго прыслухоўваліся, у яго вучыліся, ён карыстаўся аўтарытэтам не толькі сярод беларусаў Літвы, але і ў літоўскім грамадстве. Бескарысліва, актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю, Лявон Сымонавіч быў адказным сакратаром спачатку ў газетах "Эхо Литвы" і "Кур'ер Віленскі", дзе на працягу некалькіх гадоў выходзілі на беларускай мове старонкі "Беларус Віленшчыны", а з 1997 года ў газеце "Рунь", з-пад яго пяра выходзілі цікавыя гістарычныя артыкулы, ён добра ведаў "беларускую" Вільню.

Сумная вестка — 14 ліпеня 1998 года не стала сярод нас Лявона Сымонавіча Караля. Ён памёр, спынілася сэрца, калі ішоў на раду ТБК. Вельмі цяжкая страта для беларусаў Літвы. Яго пахавалі на Ліпоўцы ў Вільні.

Светлая памяць аб ім застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў, родных, блізкіх.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

# БЕЛАРУСКІ КАСЦЁЛ

Касцёл на беларускай мове будзе ў Вільні!

На працягу вясны і лета гэтага года працягвалася барацьба за беларускі каталіцкі касцёл у Вільні.

ТБМ імя Ф. Скарыны віленскага краю і ксёндз а. Ян Шуткевіч, як маглі, усімі сіламі дабіваліся права, каб маліцца на роднай мове. Двойчы маліліся перад абразом Маткі Боскай Вастрабрамскай на роднай мове, кожны дзень а 18-й гадзіне ля брамы касцёла св. Барталамея, што на Зарэччы ў Вільні, май і чэрвень, і цяпер малітвы працягваюцца. Куды толькі ні звярталіся: у камітэт па правах чалавека, да Ландсбергіса, да дэпутатаў Сойма і гарадскога самакіравання, у газеты і г. д.

Віленская курыя і епіскапат Літвы гэты касцёл св. Барталамея прапанавалі беларускай каталіцкай грамадзе Вільні, але прадпрымальнік Навіцкас доўгі час не звяртаў увагі, каб выслабаніць будынак касцёла ад майстэрань свайго прадпрыемства, не з'яўляўся ў суд для вырашэння гэтага пытання, маючы "моцныя плечы" сярод чыноўнікаў горада.

Дзякуючы настойлівасці веруючых — беларусаў, палякаў і літоўцаў, нарэшце, гэтае пытанне вырашана. Суд выказаўся на карысць веруючых, і прадпрымальнік Навіцкас пакідае будынак касцёла.

Так з дапамогай Боскай нам удалося займець касцёл, дзе набажэнствы будуць праходзіць і на беларускай мове. Ксёндз а. Ян Шуткевіч — наш пастыр, сам родам з Гродна, добра ведае нашу мову.

Яшчэ шмат прыдзецца прыхаджанам папрацаваць, каб зрабіць адпаведны рамонт будынка касцёла і там праводзіць набажэнствы, а цяпер яшчэ кожны дзень малітвы адбываюцца на вуліцы, перад касцёлам.

...Касцёл св. Барталамея ў Вільні на Зарэччы быў пабудаваны яшчэ ў першай палове XVII стагоддзя айцамі-канонікамі ад пакуты. Гэта быў драўляны храм Божы. Потым у 1788 годзе замест яго быў вымураваны новы касцёл у класічным стылі архітэктарам Марцінам Кнакфусам. Падчас паўстання 1794 года святыня была знішчана і толькі ў 1824 годзе па праекту заслужанага архітэктара Вільні прафесара Караля Падчашынскага быў адноўлены ў эклектычным стылі, а ў 1881 годзе была дабудавана званіца. У апошні час тут былі ксяндзы Садоўскі, Яленскі, Кратовіч. Трагічным для касцёла і яго прыхаджан быў дзень 9 сакавіка 1949 года, калі бальшавіцкія ўлады Літвы закрылі касцёл, выгналі Ісуса Хрыста з яго святыні...

Цяпер гэты касцёл павінен стаць асяродкам духоўнага адраджэння беларушчыны ў Літве. Барацьба за касцёл — гэта барацьба за мову нашу родную, беларускую.

**Юры ГІЛЬ.**

г. Вільня.

# У «ЗАСЦЯНКОВАЙ ХАТЦЫ»

ТБМ імя Ф. Скарыны віленскага краю 4 ліпеня 1998 года ў засценку Вашунава Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці праводзіла мерапрыемствы, прысвечаныя 5-годдзю гісторыка-этнаграфічнага музея "Засцянковая хатка" і 200-годдзю А. Міцкевіча.

З Вільні прыйшоў вялікі аўтобус з сябрамі ТБМ і калектывам мастацкай самадзейнасці "Баравянка". Прыйшлі на свята людзі з навакольных вёсак: Лайкова, Свіркі. Прыехалі прадстаўнікі з Мінска, Полацка, Пецярбурга, Мурманска...

Гулялі добра. Зроблены быў агульны абед, а людзей было больш за 100. Гучалі песні на розных мовах, бо тут людзі былі розных нацыянальнасцей: беларусы, рускія, палякі, літоўцы, украінцы і г. д.

Усім спадабаўся музей "Засцянковая хатка", які з'яўляецца структурным падраздзяленнем Таварыства беларускай мовы. За дзень да правядзення свята з Мінска прыязджала рабіць здымкі група тэлебачання. Актыўны ўдзел прымалі дзеці з вёскі Свіркі, якія заўсёды з'яўляюцца гаспадарамі гэтага музея і свята. Госці з Вільні для ўсіх прывезлі падарункі (кніжкі і абутак).

Не абышлося і без нечаканасцяў. Напярэдадні свята з'явіліся з раёна і сельсавета начальнікі. Гэта намеснік райвыканкома, старшыня сельсавета, намеснік РАУС і тры міліцыянеры, якія цікавіліся ўсім. Убачылі на акне занавеску і загадалі зняць, бо яна была пад колер бел-чырвона-белага сцяга, праверылі дакументы. Але паводзілі сябе карэктна.

Праўда, назаўтра ўчастковы ўпаўнаважаны па Параф'янаўскаму сельсавету лейтэнант міліцыі Кучын забараніў рабіць вогнішча ля сажалкі, дзе планавалася правесці "Купалле", чым сарваў гэтае мерапрыемства. На маё запытанне ён адказаў: "Ты мне лес сожжешь!", хаця кусты знаходзіліся за 300 метраў, пры гэтым ліў дождж. Людзі яго паводзінамі былі незадаволены, але вымушаны былі пагадзіцца, каб не абвастрыць абставін.

Гэтае непаразуменне было кампенсавана тым, што потым усе паехалі на возера Нарач, а адтуль у Вільню, дамоў.

А ў цэлым гэта было цудоўнае свята. Уражанні пра музей выказала ўдзельніца свята Тэрэса Зубель у газеце "Дружба" Віленскага раёна, а мне давялося выказаць падзяку калектыву "Баравянка".

**Юры ГІЛЬ,**
**дэпутат Віленскага раёна,**
**старшыня ТБМ віленскага краю.**

г. Вільня.

ЮБІЛЕЙ АРХІВА






**У 1862 годзе ў Віцебску быў адкрыты першы ў Беларусі дзяржаўны архіў — цэнтральны архіў старажытных актаў. У 1908 годзе яго матэрыялы былі перададзены ў Віленскі цэнтральны архіў старажытных актаў, а ў Віцебску застаўся толькі губернскі архіў, у якім захоўваліся дакументы, датаваныя з пачатку 1800 года. Ішоў час, архіў папаўняўся матэрыяламі, а ў чэрвені 1938 года быў створаны дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці, які адзначае сёлета сваё 60-годдзе.**

**Сёння ў дзяржархіве Віцебскай вобласці налічваецца 6 230 фондаў, дзе знаходзіцца на захоўванні больш мільёна спраў.**

**НА ЗДЫМКАХ: старшы захавальнік фондаў Іна ГРЭНЬ і дырэктар архіва Рыгор АЛЕСЬЕЎ; архіўныя дукументы.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# СІТУАЦЫЯ СТАНДАРТНАЯ

**(Заканчэнне.
Пачатак на 3-й стар.)**

нем маку, які потым мянялі на прадукты харчавання і адзенне. Асабліва такія тэндэнцыі характэрныя для паўднёвых абласцей — Брэсцкай, Гродзенскай, Гомельскай, часткова Мінскай, дзе яшчэ засталіся хутары, на якіх можна непрыкметна пасеяць мак. У мінулым годзе ў Магілёўскай вобласці было канфіскавана 30 кілаграмаў марыхуаны. Спачатку супрацоўнікі МУС выказалі меркаванне, што яе ў Беларусь аднекуль завезлі, аднак неўзабаве высветлілася, што мясцовы садавод-аматар высадзіў яе на сваім участку, у поўнай адпаведнасці з тэхналогіяй вырасціў і высушыў каштоўны прадукт, поўнасцю правёўшы яго перадпродажную падрыхтоўку... Такія ж выпадкі былі зафіксаваны ў Брэсцкай вобласці і некаторых іншых раёнах. Зрэшты, нярэдкія выпадкі, калі перавозкай наркотыкаў займаюцца і грамадзяне Беларусі. Так, у першай палове 1997 года ў Барселоне затрыманы аўтобус, што дастаўляў з Беларусі 80 кілаграмаў гераіну, у Франкфурце-на-Майне — з 4 кілаграмамі какаіну арыштаваны грамадзяне Беларусі, нашы суайчыннікі з наркотыкамі затрыманы ў Рыме і нават у Буэнас-Айрэсе.

Пэўную ролю ў распаўсюджванні наркотыкаў на тэрыторыі Беларусі адыгрывае яе геапалітычнае становішча. Сусветная практыка сведчыць, што краіна транзіту наркотыкаў вельмі хутка становіцца краінай іх ужывання. За некалькі месяцаў 1996 года ў Беларусі было затрымана звыш 100 грамадзян з 18 краін свету, што спрабавалі вывезці наркотыкі на Захад. За першы квартал 1998 года на тэрыторыі рэспублікі затрыманы 24 грамадзяніна іншых дзяржаў, што спрабавалі перавезці наркотыкі. Краіна ўпэўнена ператвараецца ў транзітную зону. Паводле звестак МУС, ад 38 да 50 працэнтаў наркотыкаў, што канфіскуюцца ў Рэспубліцы Беларусь, — прывазныя. Макавую саломку ў асноўным вязуць з усходняга напрамку, у прыватнасці, з Украіны, з Захаду ў Беларусь вязуць гераін, какаін, вялікую частку сінтэтычных наркотыкаў. Практычна кожную партыю нелегалаў, якія перасякаюць тэрыторыю Беларусі, суправаджае партыя наркотыкаў. Гэта найбольш выгадны спосаб забяспечыць сябе грашыма на дарогу, бо кілаграм гераіну, правезены праз мяжу і прададзены праз дылерскую сетку, прыносіць прыбытак да мільёна долараў. Гэта выгадна яшчэ і таму, што любы іншы тавар на такую суму будзе займаць намнога больш месца і правезці яго непрыкметна будзе значна цяжэй.

Яшчэ адна праблема, актуальнасць якой рэзка ўзрасла за апошні час, — наркотыкі і СНІД. Кожны 6-7-ы чалавек, што стаіць на ўліку ў кабінеце па лячэнні і прафілактыцы наркаманіі, — ВІЧ-інфіцыраваны. Па інфіцыраванасці насельніцтва вірусам СНІД у разліку на 100 тысяч жыхароў, сталіца беларускіх наркаманаў Светлагорск перавышае заходняга лідэра ЗША больш чым у 48 разоў. Практычна ўсе ВІЧ-інфіцыраваныя ў Светлагорску аказаліся спажыўцамі наркотыкаў.

Мяркуецца, што к канцу бягучага тысячагоддзя ў Беларусі з'явіцца каля 50 тысяч наркаманаў, яшчэ звыш 30 тысяч будуць ужываць наркотыкі нерэгулярна, і да 2000 года беларуская наркамафія, што канчаткова сфарміруецца, здзейсніць каля 30 тысяч злачынстваў, так ці інакш звязаных з наркотыкамі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

СПАДЧЫНА



Сотні каштоўных экспанатаў — унікальных ікон, першадрукарскіх і пісаных ад рукі старажытных кніг, прадметаў быту стараабрадцаў — выстаўлены ў Веткаўскім музеі народнай творчасці, якому споўнілася дзесяць гадоў.

НА ЗДЫМКАХ: партрэт заснавальніка музея Фёдара ШКЛЯРАВА (рэпрадукцыя карціны А. ЦЫКУНОВА); ткацкі стан, на якім вырабляліся славутыя неглюбскія ручнікі, аднавіў загадчык рэстаўрацыйных майстэрняў Анатоль ЧЭМЕЗАЎ.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.



# ЛЕТАПІСЕЦ СЯЛЯНСКАЙ АТЛАНТЫДЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

архетыпы ў міфалогіі і фальклоры, абвешчаных ранейшай савецкай і некаторымі плынямі сучаснай крытыкі "пражытым" этапам творчасці.

Кампазіцыйная мазаічнасць мастацкай прозы М. Гарэцкага выявілася ў першай кніжцы "Рунь" (1914), у дэбютным аднайменным апавяданні. Тут аўтар прымяніў пашыраны ў айчыннай і сусветнай літаратуры прыём, вядомы па "Аповесцях Белкіна" А. Пушкіна: узяў на сябе ролю выдаўца запісак свайго знікшага без звестак сябра Уладзіміра З. Рукапіс "аказаўся пашкоджаным", месцамі сапсаваным. Такі дасціпны прыём дазволіў пісьменніку прапанаваць незакончаныя сюжэты, "кавалкі з дзённіка", часам фрагменты сказаў і асобных слоў, запрашаючы чытачоў саўдзельнічаць у творчасці, прадумаць свае варыянты "страчаных" звенняў твора.

У дадзеным выпадку такі мастацкі прыём ёсць адзін з варыянтаў вядомага ў практычнай эстэтыцы стылю non finito (не канчаю). Ім пачынаецца і канчаецца кніжка М. Гарэцкага "Рунь". Апошняе апавяданне "У чым яго крыўда?" падаецца ў форме перапіскі студэнта каморніцкага вучылішча Кастуся Зарэмбы са сваім сябрам, сяброўкай з роднай вёскі Ганнай і вясковымі сваякамі. Аўтар выкарыстоўвае рэальныя дакументы (лісты, паштовыя пісулькі), альбо, мабыць, дасціпную стылізацыю іх. У любым выпадку ён карыстаецца фрагментамі асабістай перапіскі, у тым ліку руска-беларускай "трасянкай", на якой пісалі вясковыя грамацеі, не навучаныя ў школе пісьму ў роднай мове.

Гэта былі навацыі літаратуры XX стагоддзя, самастойна напрацаваныя нашым пісьменнікам. Яны максімальна набліжалі мастацкі свет да эмпірычнай рэальнасці, эстэтызавалі яе фрагменты.

У канцы свайго пакутніцкага жыцця М. Гарэцкі пакінуў нам унікальны твор у гэтым стылі — дакументальна-мастацкую аповесць "Камароўская хроніка". Пісьменнік спачатку бачыў у сваім творы толькі напрацаваны матэрыял для класічнага па кампазіцыі рамана-эпапеі. Але жыццё ягонае абарвалася ў бальшавіцкім ГУЛАГу. Апублікаваны ў зборы твораў М. Гарэцкага "чарнавік", паводле дакладнага вызначэння Алеся Адамовіча, быў такі важкі, столькі было схавана ў ім цяпла, энергіі, што ўзяў і "самазагарэўся": стаўся выдатным раманам нашага стагоддзя. "Незакончанасць, незавершанасць мастацкага твора, — робіць выснову даследчык, — можа часам успрымацца як эстэтычная якасць. Са знакам плюс! Дадатнай эстэтычнай якасцю можа стаць нават нейкае парушэнне нормы, частковае разбурэнне".

Літаратурнае жыццё М. Гарэцкага прайшло паміж 1912-ым годам (першае апавяданне "У лазні") і страшным годам бальшавіцкага тэрору — 1937-ым (апошнія запісы пісьменніка для "Камароўскай хронікі"). Шмат твораў таго перыяду не вытрымалі выпрабаванне часам. Не тое — мастацкая проза Максіма Гарэцкага. Ды ўсё іншае, што стварыў гэты пакутнік за Беларусь. Напрыклад, ягоная "Гісторыя беларускай літаратуры". Яго творы сёння застаюцца надзіва сучаснымі. Зусім верагодна, такімі застануцца ў наступным стагоддзі. Ёсць нешта шэкспіраўскае ў апавяданнях, прозе і драматургіі нашага пісьменніка, ёсць трагічная краса ў іх. Яна не толькі ў змесце (вымаўленне радасці і пакутаў жыцця), але і ў эстэтыцы, стылістыцы. М. Гарэцкаму ўдалося натуральна, нязмушана і гарманічна паяднаць міфалогію, фальклорныя вытокі і жывапісанне народнага традыцыйнага побыту з посткласічнымі навацыямі ў літаратурнай эстэтыцы.

Укаранёнасць літаратурнай спадчыны пісьменніка ў архетыпах народнай культуры даследуецца мною ў артыкуле, напісаным на аснове даклада "Міфалагічныя і біблейскія матывы ў творчасці Максіма Гарэцкага" (прачытана на "Гарэцкіх чытаннях" 1996 года). Цяпер жа звернем увагу на адрозненне літаратурнага наватарства М. Гарэцкага ад сучаснага мадэрнісцкага і постмадэрнісцкага мастацтва. У адпаведнасці з класічнымі традыцыямі, М. Гарэцкі тварыў у дыяпазоне ўсяго спектра эстэтычных катэгорый — ад прыгожага, узнёслага і трагічнага да іх проціглегласцяў — агіднага, нізкага і камічнага. Аднак негатыўныя эстэтычныя катэгорыі тут не самасцвярджаюцца ў якасці каштоўнасцей. Яны — толькі сродкі кантрастнага выяўлення ідэалаў сацыяльнай і духоўнай гармоніі. Сучасны ж мадэрнізм і постмадэрнізм даволі часта арыентуецца на агіднае і нізкае як самамэту, выяўляючы пераважна дысгарманічнасць, распад сацыяльных і духоўных каштоўнасцяў.

М. Гарэцкі, як і большасць беларускіх адраджэнцаў "нашаніўскай" генерацыі, быў асветнікам, арыентаваным на пазітыўную навуку і еўрапейскую цывілізацыю. Але ніколі не прымаў пазітывізму і вузкага культуртрэгерства. З дзіцячых гадоў далучаны да традыцыйнай народнай культуры ён глыбока адчуваў містыку народнага жыцця, аўтэнтычнай міфалогіі і фальклору. Ягоны ідэал — гармонія паміж маральна-эстэтычнымі каштоўнасцямі традыцыйнага побыту, абрадамі, фальклорам і навукова-тэхнічным прагрэсам XX стагоддзя.

Дысгармонію штодзённага жыцця роднай вёскі балюча перажывае "вучань апошняга клясу каморніцкага вучылішча" Клім Шамоўскі і alter ego аўтара — герой аповесцяў "Меланхолія" і "У чым яго крыўда?" Лявон Задума. Няздольнасць да актыўнага, духоўнатворчага пераадолення сацыяльнай дысгармоніі прывяла героя п'есы "Атрута" Рамана да трагічнай катастрофы. Дысгармонія паміж хрысціянскімі ідэаламі, іх маральнымі імператывамі і штодзённым злом прывяла героя драмы "Антон" спачатку да псіхалагічнага надлому, а пасля да трагічнага фіналу — забойства сына і самазабойства.

Урэшце, дакументальна-мастацкая аповесць, а дакладней, сялянская эпапея "Камароўская хроніка" ўяўляецца мне па аналогіі з трагічнай сімфоніяй. Тут ёсць раскрыццё драматычнага процістаяння дабра і зла, гаромніі і хаасу. Яны прывялі ў фінале да знікнення слянскай "Атлантыды" (А. Адамовіч), дэфармацыі яе тысячагадовай культурнай традыцыі.

Поўная сацыяльная гармонія, жыццё ў соцыуме без супярэчнасцей, без гвалту і крыўды на ўсіх узроўнях сацыяльнага жыцця: ад сямейнага побыту да дзяржаўнага функцыянавання — ёсць міфалагема зямнога Раю. Класічнае мастацтва, найперш музыка і паэзія, глыбока выявілі вобразы Раю і Пекла на зямлі. Біблейскія архетыпы Раю леглі ў аснову сюжэтаў многіх беларускіх казак, легенд, паданняў. Народная вера ў Рай зафіксавана ў зборніку А. Сержпутоўскага "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў" (1930 г.). Пекла і Рай нашай гісторыі, беларускага грамадскага жыцця — скразная тэма беларускай літаратуры. Янка Купала і Якуб Колас спачатку стваралі элегічную паэзію пра Пекла мужыцкай вёскі — спрадвечнага падмурка нацыі і культуры. А пазней, пасталеўшы, пазбавіўшыся рыгарызму маладосці, яны таленавіта выявілі гармонію роднага краю, ідэальную сугучнасць па-мастацку "ачышчанага" сялянскага быцця, гарманічна дапасаванага да рытмічных цыклаў прыроды. У Якуба Коласа, — гэта "Новая зямля" і пейзажна-лірычныя фрагменты паэмы "Сымон-музыка". У Янкі Купалы — паэма "Яна і я".

Прыкмета спецыфічнага для М. Гарэцкага мастацкага метаду — выяўленне палярызацыі і ўзаемапранікнення гарманічных, райскіх і дысгарманічных, пякельных пачаткаў у жыцці. У галерэі ягоных вобразаў ёсць святыя пакутнікі і асабліва пакутніцы-жанчыны. Але ёсць таксама характары амбівалентныя, супярэчлівыя, здольныя на добрыя і злыя ўчынкі — у залежнасці ад разумных ці дурных абставінаў жыцця, добрых альбо злых імпульсаў уласнай душы. Большасць герояў М. Гарэцкга — яшчэ на шляху ўзгадавання сацыяльнай і псіхалагічнай культуры, да духоўнай сталасці, якая дазваляе зменшыць наканаваныя "ўсякаму дыханню" зло і пакуты жыцця, садзейнічае выяўленню гармоніі праўды, дабра і красы.

Пра светапогляд М. Гарэцкага добра сказаў вядомы вучоны Гаўрыла Гарэцкі, адзначыўшы, што ягоны брат і настаўнік верыў у перамогу творчага пачатку, марыў пра "апафеоз новага жыцця".

Ідэал "новага жыцця" ёсць часткова сацыяльнае прароцтва, часткова міфалагема. Пры ўмове добрай волі і наяўнасці маральных імператываў мара пра абнаўленне жыцця стымулюе культурную творчасць, рэфарматарства; а пры неадпаведнасці злых сродкаў добрым намерам гэты ідэал вядзе да рэвалюцыі, разбурэння традыцыйнага, "старога" жыцця. Трэба прызнаць, што схільная да маральных кампрамісаў частка савецкай інтэлігенцыі трапіла ў духоўную залежнасць ад рэвалюцыйных ілюзій, спадзяванняў на камуністычны рай.

М. Гарэцкі як пісьменнік глыбока пранік у бездань злой стыхіі, у сферу падсвядомых разбуральных імпульсаў і, верагодна, з гэтай прычыны заставаўся свабодным ад бальшавіцкай сацыяльнай міфалогіі. Пра гэта сведчаць аповесць "Дзве душы" і драма "Антон" — твор надзвычай глыбокі, напісаны ў традыцыях драматургіі В. Шэкспіра і Л. Талстога.

На мой погляд, якраз у гэтай драме пісьменнік раскрыў крыніцы зла, размытасць паміж дабром і злом на эмпірычным узроўні быцця. Зло прарастае не толькі ад сквапнасці, схільнасці да пераацэнкі грубых матэрыяльных дабротаў, не толькі з адсутнасці арыентацыі на духоўныя каштоўнасці (вобразы лесніка Аўтуха Жабона і ягоных сабутэльнікаў), але і так званага "обрядоверия" — сурагата сапраўднай рэлігійнасці і духоўнасці. Добры, гуманны сын лесніка Антон стаў ахвярай якраз гэтага рэлігійнага дагматызму.

Урэшце, спакуса героя драмы М. Гарэцкага "Антон" ідэалам несупярэчлівага дасканалага грамадства, яго начотніцкае, нятворчае разуменне хрысціянскай рэлігіі і, як вынік, — трагедыя ягонай сям'і, аказаліся мастацкім прароцтвам пра сімптомы маральнага надрыву і сацыяльнай спакусы ўсіх "прыніжаных і прыгнечаных" Расійскай імперыі, падтрымаўшых бальшавіцкую рэвалюцыю, якая прычынілася да вялікіх трагедый дваццатага стагоддзя. У эпіцэнтры гэтых блуканняў па пакутах амаль на цэлае стагоддзе аказаліся ўсходнеславянскія рэгіёны, а сярод іх Беларусь перажыла сваю Галгофу і сваё ўкрыжаванне. Бальшавіцкае псеўдамесіянства і тэрор супраць нацыянальнай эліты народа паставілі на мяжу нябыту нашу Бацькаўшчыну, разбурылі спрадвечныя народныя каштоўнасці. Максім Гарэцкі быў сведкам і летапісцам гібелі па-свойму дасканалай і гарманічнай сялянскай Атлантыды, што была падмуркам беларускай самабытнасці і гарантам нацыянальнага Адраджэння. Урэшце сама смерць пісьменніка ад рук бальшавіцкіх забойцаў у далёкім расійскім ГУЛАГу была сімвалічнай развязкай нацыянальнай драмы Беларусі.

Напярэдадні пакарання смерцю Максім Гарэцкі запоўніў апошнія старонкі сваёй "Камароўскай хронікі" — твор небывалы ў нацыянальнай і сусветнай літаратуры, прароцтва пра яе будучыню, літаратура новага кшталту, у якой знікаюць межы паміж быццём і мастацтвам, літаратурай і гісторыяй, мастацкай медытацыяй і рэальнай экзістэнцыяй. Набліжэнне літаратуры да жыцця для М. Гарэцкага — не банальная дэкларацыя, якой яно было ў марксісцка-ленінскай ідэалогіі, а творчы прынцып, вяртанне на больш высокім, аналітычна-рэфлектыўным і медытацыйным узроўні да традыцыйнага народнага эпасу. У сваёй апошняй лебядзінай песні ("Камароўскай хроніцы") пісьменнік не затушоўвае, наадварот, акцэнтуе ўвагу чытача на трагедыях штодзённага народнага побыту з яго пакутамі, несправядлівасцямі, раннімі і заўчаснымі смерцямі. Але — дзіўная рэч: твор гэты выклікае не пачуццё адчаю і безвыходнасці, а хутчэй — надзею, веру і любоў.

Гэтыя хрысціянскія цноты і душэўная гармонія ўспамінаюцца пры сузіранні і перажыванні чытачом гарманічнага і па-свойму дасканалага ладу сялянскага быцця і народнай культуры. Вось толькі адзін прыклад. У раздзеле "Вусцінкіна вяселле" пісьменнік, як звычайны факт, па-летапіснаму лаканічна зазначае пра беларускае вяселле: "А ўсяго за вяселле спялі песень сот пяць, на сто розных мелодый".

За гэтым сціплым сказам — складанае квітненне традыцыйнай народнай культуры. У параўнанні з ёю сённяшняя масавая культура бачыцца банальным спрашчэннем побыту сучаснага грамадства. Нам застаецца хіба што надзея на хоць бы частковае, фрагментарнае, хоць бы на стадыі добрай стылізацыі, вяртанне колішняга росквіту нашай сялянскай культуры. Але для гэтага патрэбна адпаведная палітыка ўсеагульнага нацыянальнага Адраджэння, у тым ліку вяртання да жыцця сялянскай Атлантыды.

**Уладзімір КОКАН.**

ЗАКОНЧЫЎСЯ АГЛЯД ТЭАТРАЎ ДРАМЫ І ЛЯЛЕК

# ЧЫМ ЖЫВЕ ТВОРЧАЯ МОЛАДЗЬ

Зачынілі свае казачныя дзверы беларускія тэатры... Адпачывае глядач, але нястомна працуюць крытыкі... Нарэшце, скончыўся Рэспубліканскі агляд творчай моладзі тэатраў драмы і лялек. Прыйшоў час падводзіць вынікі. Фініш — заўсёды справа найбольш дужых, таленавітых і псіхалагічна падрыхтаваных. Агляд праходзіў па дзесяці творчых намінацыях.

Як вырашыла аўтарытэтнае журы, старшыня якога Р. Смольскі, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, доктар мастацтвазнаўства, лепшымі маладзёжнымі спектаклямі з'яўляюцца "Туці-фруці" — вучэбны гумарыстычны спектакль трэцяга акцёрска-рэжысёрскага курса акадэміі мастацтваў і спектакль славутага Беларускага тэатра "Лялька" з Віцебска "Брэменскія музыкі". Абодва спектаклі ўзнагароджаны дыпломамі і грашовымі прэміямі. А спектакль "Дванаццатая ноч" Гомельскага драматычнага тэатра таксама не застаўся па-за ўвагай.

Цікава, хто з беларускіх маладых артыстак самая таленавітая? Такіх было шмат. Палершае, гэта прыгажуня Ала Проліч — зорка і надзея Тэатра-студыі кінаакцёра. На адной прыступачцы з ёй знаходзіцца папулярная артыстка з Беларускага тэатра "Лялька" Вольга Маханькова. Абедзве атрымаюць дыпломы і грашовыя прэміі Міністэрства культуры. Не засталіся па-за ўвагай журы маладыя артысткі: Валерыя Арланава з Тэатра-студыі кінаакцёра ў ролі Канчыты (спектакль "Апошняя жанчына сеньёра Хуана"), Юлія Міхневіч з тэатра імя Я. Купалы ў ролі Аляксандры (спектакль "Парфён і Аляксандра"), Наталля Падвіцкая з Маладзёжнага тэатра ў жаночай ролі (спектакль "Дзесьці далёка"), Тацццяна Зелікава з Магілёўскага тэатра лялек у ролі Пігі (спектакль "Казка пра трох парсючкоў"), Марыя Гарбачова з Гомельскага тэатра лялек у ролі качачкі Грэты (спектакль "Карлік Нос") — усе гэтыя маладыя актрысы адзначаны дыпломамі аўтарытэтнага журы.

А чым жа вызначыліся маладыя беларускія хлопцы-артысты? Узнагароды за лепшую мужчынскую ролю атрымалі: Мікалай Сцешыц, артыст Магілёўскага тэатра лялек за ролю Ваўка ў спектаклі "Казка пра трох парсючкоў"; Ігар Сігоў — артыст Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі за выкананне мужчынскай ролі ў пастаноўцы "Развітанне з Радзімай"; Яўген Іўковіч — неардынарны прадстаўнік Маладзечанскага драмтэатра за выкананне мужчынскай ролі ў спектаклі "Караль". Ім журы прысудзіла дыпломы і грашовыя прэміі Міністэрства культуры. На жаль, таленавітых прэтэндэнтаў было больш, чым вызначаных намінацый. Таму журы вырашыла ўвесці свае дыпломы, каб дадаткова адзначыць цікавых выканаўцаў.

Дыпломамі журы былі адзначаны: Павел Харланчук — надзея Гомельскага абласнога драматычнага тэатра і вельмі папулярны артыст Рускага драмтэатра, любімец публікі Валянцін Серада. На тэатральных нябёсах зазззялі зоркі таленавітых маладых кампазітараў, рэжысёраў, сцэнографаў, выканаўцаў канцэртных нумароў. Хто з іх аказаўся лепшым? Так Іван Ракалайнен перамог у намінацыі "музычнае афармленне", прадстаўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі вельмі незвычайна і цікава афарміў музычную частку пастаноўкі "Развітанне з Радзімай". Арыгінальна і адметна працуе загадчык музычнай часткі Коласаўскага тэатра Аляксандр Крыштафовіч, які стварыў цікавае музычнае афармленне да спектакля "Таму, што люблю". Разам з Іванам Ракалайненам ён атрымаў дыплом і прэмію Міністэрства культуры.

Доўгія спрэчкі разгарнуліся наконт лепшай маладзёжнай рэжысуры... Нават у рэжысёраў-карыфеяў бываюць хібы. А тут... Наталля Башава і Ірэна Мацкевіч — вось лепшая маладзёжная падпітка ў беларускай рэжысуры. Прадстаўніца тэатра імя Я. Купалы Н. Башава за пастаноўку спектакля "Карлік Нос" і рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек Ірэна Мацкевіч за пастаноўку спектакля "Гэта ты, Моцарт?!" — узнагароджаны дыпломамі і грашовымі прэміямі Міністэрства культуры.

А чым жа парадавала сучасная беларуская сцэнаграфія? Яе поспехі таксама відавочныя. У гэтым напрамку вызначыліся Алесь Сураў (Гродзенскі тэатр лялек), які вельмі цікава і спецыфічна, з вялікім мастацкім густам і філасофскім сэнсам афарміў знакаміты спектакль "Прыхадзень"; Любоў Сядзельнікава (тэатр імя Я. Купалы), якая на працягу 1996—1998 гадоў неаднойчы зачароўвала нас сваім сцэнаграфічным "чароўным зеллем". Але нейкага кампаненту ў гэтым "зеллі" не хапіла Ганне Мятліцкай (Магілёўскі драматычны тэатр) і Алене Зайцавай (Маладзёжны тэатр) — дзяўчаты адзначаны дыпломамі журы.

У намінацыі "аўтарская работа, увасобленая на сцэне", перамог Ігар Сідарук (Брэсцкі тэатр лялек). Загадчык літаратурнай часткі гэтага калектыву пакарыў аўтарытэтнае журы п'есай "Збавіцель", якая напісана на біблейскую тэму пра нараджэнне Ісуса Хрыста.

Наогул журы здзівіць цяжка, але Павел Адамчыкаў, які таленавіта паставіў пластычныя і танцавальныя сцэны ў студэнцкім спектаклі Акадэміі мастацтваў "Туці-фруці", безумоўна, быў заўважаны і адзначаны дыпломам.

У ліку пераможцаў апынуўся і Аляксандр Баль, загадчык музычнай часткі Магілёўскага драматычнага тэатра. Ён сам напісаў цудоўныя вершы, музыку, якія ўвасобіў у сваім монаспектаклі "Вайна". Не кожны тэатр можа пахваліцца тым, што мае свайго штатнага барда, а ў магілёўскім тэатры такая асоба маецца і ўпрыгожвае калектыў. Тут без усялякіх спрэчак А. Баль атрымаў дыплом і грашовую прэмію.

Сярод акцёрскай моладзі ёсць яшчэ і таленавітыя спевакі. Ці ведаеце вы іх імёны? Не? А я ведаю. Гэта Алеся Баева — загадчык музычнай часткай Магілёўскага тэатра драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча. Божухна, як цудоўна і пранікнёна распявае яна ў сваіх песнях і музыцы пра лёс чалавечы, пра вялікае і ўзнёслае каханне, пра дзявоцкія мары, пакуты і спадзяванні... Гэтая прыгожая, абаяльная дзяўчына сваёй эмацыянальнасцю, экспрэсіўнасцю выканання, скаланула сэрца кожнага, хто чуў і бачыў яе. Таму і не дзіва, што яна, як і А. Баль, атрымала высокую ўзнагароду журы.

Вельмі раскошны спеўны патэнцыял мае незвычайная дзяўчына — студэнтка другога курса Беларускай акадэміі мастацтваў Юлія Бараноўская. Будучая актрыса здзівіла прысутных сваімі галасавымі данымі, цікавым выкананнем арыі Мелітрысы з оперы "Казка пра цара Салтана" і раманса Рубінштэйна "Ноч".

Што і казаць, студэнты на выдумку здатныя, і таму шэраг канцэртных нумароў, якія яны прыдумалі, атрымалі дыпломы і прэміі журы. Уразілі ўсіх нумары з лялькамі. Нумар "Сабакі" ў выкананні студэнта Ігара Пятрова набыў небывалы філасофскі сэнс аб чалавечым жыцці. Студэнт арганічна спалучаўся з лялькай, адчуваў кожны яе рух, будуючы ўзаемаадносіны між сабой і нежывой матэрыяй дастаткова пераканаўча. Нумар "Ён і Яна" (у лялечным выкананні студэнтамі-лялечнікамі Аляксандрам Янушкевічам і Нінай Сяўніцкай) вабіў тонкім гумарам, фантазіяй, прафесійным "пачуццём лялькі", музычнасцю. Нумар "Банцік" на музыку Моцарта ў жартоўным вакальным стылі выканалі студэнты Вера Палякова, Аляксандр Малчанаў, Мікалай Прылуцкі — лёгка, весела, задорна! Безумоўна, журы адзначыла нумары і выканаўцаў дыпломамі і прэміямі.

Артыстызму выканаўцаў можна толькі пазайздросціць. Малайцы студэнты!

Спецыяльны дыплом журы быў присуджаны кіраўніку балетнай трупы пры Гродзенскім драматычным тэатры Аляксандру Цебянкову за плённае супрацоўніцтва з тэатрам. Наогул такое гарманічнае суіснаванне драматычнага тэатра і балетнай трупы — з'ява унікальная. Здаецца, нічога падобнага з часоў графа Тызенгаўза на зямлі беларускай не было!

Агляд скончыўся. Але наперадзе фестываль і гала-канцэрт, у якім прымуць удзел пераможцы конкурсу-агляду, якія адбудуцца ў Гародні ў лістападзе 1998 года, дзе пераможцы атрымаюць свае ўзнагароды.

Аляксей ШАЛАХОЎСКІ.

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ

**Мастацкае жыццё Мінска, нягледзячы на сезон водпускаў, не спыняецца. Так у Палацы мастацтваў адкрываецца выстава за выставай. Нам хочацца расказаць пра выставу Людмілы Кальмаевай і Аляксандра Родзіна. Як сказала мастачка, яны даўно сябруюць і сустрэча іх карцін у адной зале — не выпадковасць.**

**Людміла Кальмаева зараз жыве ў Нідэрландах. Раней жа яна працавала ў Мінску, была сябрам мастацкага таварыства "Пагоня" і выкладала ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Для творчасці мастачкі характэрна разнастайнасць. Пачынала яна з дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, займалася габеленамі. Потым у яе творчасці з'явілася станковая і кніжная графіка, плакат. На выставу ж яна прывезла свае выяўленчыя працы апошніх гадоў, якія былі зроблены ў Галандыі. Летась у Саюзе мастакоў убачылі рэпрадукцыі яе карцін і запрасілі паказаць іх у Мінску. Людміла Кальмаева што змагла, тое сама прывезла за 2 тысячы кіламетраў. Бо вельмі хацелася, каб карціны ўбачылі ў Мінску.**

**Фарбы на яе карцінах вясёлкавыя. Яны пераходзяць адна ў адну. Перад намі — дзяўчынка. Углядаешся — гэта анёл з абрубленымі крыламі. Яшчэ яна малюе цырк. І ў карціне гэтай свята і радасць. Услухаешся — чуеш дзіцячы смех. Які ж цырк без яго!**

**Аляксандр Родзін вельмі арыгінальны мастак з вобразным філасофскім мысленнем. У яго індывідуальны погляд на свет. Яго работы часам здаюцца абстракцыяй, у якой няма логікі. Але ж усё наша жыццё ці мае логіку? І ці ёсць логіка ў хаосе? Амаль што да кожнай з карцін ёсць тлумачэнне аўтара, яго канцэпцыя. Часам жудасна глядзець на ягоныя працы. Здаецца, што бачыш не толькі пачуцці і думкі мастака, але і цёмныя бакі ўласнай падсвядомасці. Вось што піша мастак да сваёй карціны "Апакаліпсіс": "Ёсць клубок моцных уздрыгванняў, энергетыка бездапаможнасці... Усё цячэ, усё застыла". Ён малюе халодны, страшны горад і называе яго "гіганцкім муравейнікам чалавечых канструкцый".**

**Але ж нездарма побач з карцінамі Родзіна — працы трошкі іншыя — Кальмаевай. Яны не супярэчаць адзін аднаму. Іх суседства дапамагае гледачу ўтаймаваць свае пачуцці, нешта новае адкрыць для сябе ў свеце і ў мастацтве.**

**Алена СПАСЮК.**









**НА ЗДЫМКАХ: мастак Аляксандр РОДЗІН; фрагмент ягонай карціны "Лёс"; Людміла КАЛЬМАЕВА; карціна мастачкі "Цырк".**

АДПАЧЫНАК

# «ДУДУТКІ» — ДЗІЦЯЧЫ ЛЕТНІК

Музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі", які добра вядомы не толькі на Пухаўшчыне, але і ва ўсёй Беларусі, здзівіў чарговы раз. На беразе Пцічы, у ваколіцах старажытных Дудзічаў, распачаў сваю працу дзіцячы аздараўленчы лагер "Ля млына". Назва зразумелая: ветраны млын — галоўнае ўпрыгажэнне музея матэрыяльнай культуры.

— Мы звярнуліся да Пухавіцкага райвыканкома, а таксама ў Мінскі аблвыканком ды сталічны гарвыканком, — гаворыць пісьменнік Яўген Будзінас, — з просьбай вызначыць па 10 дзяцей з малазабяспечаных сем'яў. Што і было зроблена. Зараз у нашым летніку ўпершыню ў гісторыі "Дудутак" адпачываюць цэлы месяц 30 хлопчыкаў і дзяўчынак.

Сам факт арганізацыі аздараўленчага лагера стаў магчымым дзякуючы намаганням фірмы "Дудуткі-тур" (яе ўзначальвае Валерыя Кліцунова) і фінансавай падтрымцы грамадзяніна Галандыі Вілема Мідзелкопа. Гэты чалавек доўгі час працаваў на Беларусі як прадстаўнік Міжнароднага валютнага фонду, паспеў пасябраваць са стваральнікамі "Дудутак". Наважыўшыся нешта вартае зрабіць для музея, Мідзелкоп прапанаваў арганізаваць летнік.

— Мы рады дзецям, якія патрапілі да нас у лагер "Ля млына", — гаворыць дырэктар музея Тамара Станкевіч. — Усе хлопчыкі і дзяўчынкі таленавітыя, прыгожыя.

І сапраўды, дзеці таленавітыя. Адзін Вася Рыбін (вучань 9-га класа мар'інагорскай СШ № 3) чаго варты! Сапраўдная эстрадная зорка. Дарэчы, Вася — удзельнік усебеларускага тэлефестывалю "Усе мы родам з дзяцінства". А мар'інагорскія школьнікі, браты Антон і Андрэй Раманавы, апантана захопленыя ігрой на балалайцы.

Праграма аздараўленчага лагера пабудавана па ўсіх законах педагогікі. Жыццё ў летніку "Ля млына", дзе працуюць выкладчыкі з беларускай сталіцы, з Мар'інай Горкі ды з бліжняй Грабенскай сярэдняй школы, складаецца з некалькіх выхаваўчых цыклаў. Першы ў іх шэрагу — экалагічны. Тэарэтычныя і практычныя заняткі праводзіць прафесар, доктар біялагічных навук Анатоль Федарук. Дудзіцкія ваколіцы багатыя на гісторыю. Некалі тут быў водны парк. Экалагічная праграма выхавання складаецца не толькі з лекцый, а яшчэ дзеці ходзяць на экскурсіі, збіраюць гербарый, займаюцца фларыстыкай. Дзеці катаюцца на конях пад кіраўніцтвам вопытных трэнераў. Сустракаюцца з пісьменнікамі, артыстамі. Сярод гасцей летніка — народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, старшыня пісьменніцкай арганізацыі краіны Уладзімір Някляеў. У праграме адпачынку — экскурсіі ў Мір, Нясвіж, Навагрудак, паездка па купалаўскіх мясцінах.

"Ля млына" — новы праект музея матэрыяльнай культуры "Дудуткі", фірмы "Дудуткі-тур", і хацелася б, каб ён стаўся традыцыйным, жыццяздольным і ў будучыні.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



Сярод рамонкаў.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА. БелТА.

БІЛЬЯРД

# І СПОРТ, І МАСТАЦТВА

Вызначыць, што такое більярд, вельмі складана. Тыя, хто іграе ў яго, гавораць, што гэта — від спорту, па якому праводзяцца спаборніцтвы і міжнародныя чэмпіянаты, выдатны від адпачынку, а калі назіраеш за гракамі высокага класа, разумееш, што гэта яшчэ і мастацтва. Раўнадушныя да більярда толькі тыя, хто ніколі не трымаў у руках кія.

У більярдзе ёсць свае разнавіднасці: рускі більярд, ці, як яго называюць на Захадзе, "класічны", амерыканскі більярд "пул", англійскі "снукер", італьянскі "фішкі" і "карамболь", дзе лузы адсутнічаюць зусім.

Адрозніваюцца яны памерам сталоў, шароў і луз, а галоўнае канцэпцыяй гульні.

Да рускага більярда адносяцца тры гульні — "руская піраміда", "маскоўская піраміда" і "амерыканка". Сталы для рускага більярда выраблены з высакародных парод дрэва і пліт з каменя ардэзія, які здабываецца ў італьянскіх Альпах. Таўшчыня такой пліты 42—45 міліметраў, стол складаецца з пяці пліт, якія ідэальна стыкуюцца паміж сабой у роўную паверхню. У мінскім більярдным клубе "Піраміда" стаяць англійскія сталы, перагробленыя для рускага більярда, балазе стол у англійскім більярдзе такіх жа памераў, што і ў рускім, толькі луза большая, а шар меншы.

На тэрыторыі былога Савецкага Саюза распаўсюджаны ў асноўным рускі більярд. Практычна ўсе міжнародныя спаборніцтвы сёння праводзяцца пад эгідай Расіі. Яна ж праводзіць найбольш аўтарытэтны сёння ў СНД турнір, які называецца Адкрыты чэмпіянат Расіі, куды запрашаюцца ігракі з усяго былога Савецкага Саюза, і неафіцыйныя камерцыйныя турніры. Паралельна існуе Міжнародная асацыяцыя лузнага більярда па пірамідзе і караліне, куды ўвайшлі, акрамя краін былога Савецкага Саюза, Венгрыя, Фінляндыя, Манголія. На гэтых турнірах выяўляецца мацнейшы ігрок рускага більярда ў свеце. Між тым, у 1996 годзе ў Атланце Міжнародны алімпійскі камітэт прыняў Сусветную канфедэрацыю більярда ў лік алімпійскіх відаў спорту, ёсць усе падставы лічыць, што ў 2004 годзе більярд будзе ўключаны ў праграму Алімпійскіх гульняў.

Апошні чэмпіянат Савецкага Саюза прайшоў яшчэ ў даваенныя часы. А потым кіраўніцтва краіны вырашыла, што гэта гульня не адпавядае маральнаму абліччу савецкага чалавека і з таго часу да більярда сталі ставіцца скептычна. Старыя більярдныя закрываліся, новыя не ўзнікалі, а старадаўнія, прыгожыя, каштоўныя сталы аказаліся на чыйнебудзь дачах. Захаваліся більярдныя, як правіла, у Дамах афіцэраў ці элітных дамах адпачынку.

Більярд у Беларусі як спорт з'явіўся прыкладна ў 1988 годзе, калі ў Вільнюсе прайшоў матч "Мінск — Вільнюс — Рыга". Гэта быў першы турнір, у якім прынялі ўдзел беларускія спартсмены. З таго часу беларусы рэгулярна прымалі ўдзел ва ўсіх міжнародных спаборніцтвах, дзе добра сябе зарэкамендавалі. У 1991 годзе была зарэгістравана Мінская федэрацыя, а ў 1992—1993 гадах прайшлі першыя чэмпіянаты Беларусі па більярду. У 1994 годзе мінскія більярдысты пазбавіліся сваёй базы, не стала і фінансавання, і з таго ж часу наша зборная ездзіць на чэмпіянаты ці за свой кошт, ці з прыцягненнем сродкаў спонсараў. Такое ж становішча працягваецца да сённяшняга дня. У той жа час у беларускай камандзе гуляюць ігракі міжнароднага класа: Іван Раковіч, Аляксандр Жылкін, Юрый Лобач, Муслім Гурбанаў і Руслан Якубкін, на рахунку якіх другое месца на чэмпіянаце СССР, чацвёртае — на чэмпіянаце свету, прызавыя месцы на міжнародных турнірах.

На пытанне, ці можна прылічваць більярд да азартных гульняў, ігракі пытаюцца, а ці бачылі вы не азартны від спорту, і ці можна назваць не азартнай ігрой тэніс, дзе прызавы фонд часам складае мільёны долараў?

Мінскі клуб "Піраміда" пачаў працаваць з сакавіка 1998 года і сёння з'яўляецца лепшым більярдным клубам Беларусі. У першую чаргу, гэта абумоўлена выдатнай якасцю сталоў, якія адпавядаюць самым строгім міжнародным патрабаванням. Сталоў у "Пірамідзе" дзесяць: шэсць для рускага більярда і чатыры для амерыканскага. Ёсць усе падставы лічыць, што ў хуткім часе "Піраміда" стане базай для падрыхтоўкі зборнай каманды Беларусі і рэспубліканскім більярдна-спартыўным цэнтрам.

У більярд іграюць усе. Практычна немагчыма назваць якуюнебудзь сацыяльную катэгорыю людзей, якая б захаплялася гэтай гульнёй больш за астатнія. Іншы раз у більярд прыходзяць гуляць сем'ямі. Па пулу праводзіцца чэмпіянат свету сярод жанчын. Што тычыцца ўзроставых абмежаванняў, то ў клуба "Піраміда" ёсць свой гонар — 90-гадовы Фёдаравіч, які служыць жывым сведчаннем таго, што гэтых самых абмежаванняў не існуе.

Месяц назад у Брэсце прайшоў турнір па більярду, пераможцам якога стаў Муслім Гурбанаў з Мінска, восенню плануецца аднайменне чэмпіянату Беларусі па більярднаму спорту.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ПОМОГИТЕ, СООТЕЧЕСТВЕННИКИ!

Обращаюсь к вам с последней надеждой спасти жизнь моего сына...

Мой сын Юрий два года назад заболел злокачественной гистеоцитомой (фиброзной) кожи и мягких тканей с метастазами на лёгких (размер 0,2 — 0,5 сантиметра). Это онкологическое заболевание — результат аварии на Чернобыльской АЭС. Юра прошел курс химиотерапии, ему сделали операцию, провели лучевую терапию. К великому сожалению, лечение не дало положительных результатов.

А наши специалисты считают, что такую болезнь с успехом можно вылечить, и делают это в клиниках на Западе.

Послать туда сына не имею средств. Поэтому и обращаюсь к добрым людям: может кто возьмет моего Юру на лечение? Ему всего 13 лет, а жизнь мальчика под смертельной угрозой.

С надеждой буду ждать любые предложения.

**Геннадий МАСАЛЬСКИЙ.**

Мой адрес: **городской поселок Зелёный Бор, ул. Садовая, д. 13, Смолевичский район Минской области, 222218, Беларусь.**

Можно звонить по телефону: мне — (8-275) 68-5-95 или сестре Людмиле в Минск — 259-01-63 (домашний) 234-64-34 (рабочий).

## «ГЛЫБОЧЧЫНА: ПОГЛЯД У МІНУЛАЕ».

31 кастрычніка — 1 лістапада 1998 года ў горадзе Глыбокае будзе праводзіцца міжнародная гісторыка-краязнаўчая канферэнцыя "Глыбоччына: погляд у мінулае".

Члены краязнаўчага аб'яднання "Спадчына" і супрацоўнікі гісторыка-этнаграфічнага музея запрашаюць усіх, хто мае цікавы матэрыял па гісторыі Глыбоцкай зямлі, прыняць удзел у данай канферэнцыі. Тэмы вашых выступленняў чакаюць на адрас:

**211800, Рэспубліка Беларусь,**
**Віцебская вобласць, г. Глыбокае,**
**вул. Энгельса, 24.**
**Гісторыка-этнаграфічны музей.**
**Не пазней 1 верасня бягучага года!**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, зверстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1303.
Падпісана да друку 13. 07. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.